Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ — Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 22 (4925) 2 чэрвеня 2017 г.



**СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК**



*Фота Ларысы Цімошык.*

**КРАІНЫ ствараюцца асобамі, нездарма асобы прэзентуюць краіну ў свеце. А калі чалавек сваёй дзейнасцю паўплываў на фарміраванне і развіццё розных культур, то яго імя становіцца знакавым для шырокай прасторы і працягвае натхняць і гуртаваць вакол сябе. У плынь дыялогу ўключаюцца іншыя. З такімі думкамі сёлета Беларусь удзельнічае ў маскоўскім кніжным фестывалі, дзе ў цэнтры ўвагі для нас будзе Асоба першадрукара.**

# ДАРОГІ, ЯКІЯ НАС ЯДНАЮЦЬ

**У пярэдадзень сумеснага пасяджэння Савета па гуманітарным супрацоўніцтве дзяржаў-удзельніц СНД і Праўлення Міжнароднага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц СНД мы звярнуліся да старшыні згаданага савета міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лiлii АНАНІЧ з просьбай адказаць на некаторыя пытанні газеты «Літаратура і мастацтва», якія датычаць у тым ліку міжнародных літаратурных стасункаў.**

**— Лілія Станіславаўна, у Маскве, ў Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Рэспублікі Беларусь, у Расійскай Федэрацыі, пройдуць адразу два знакавыя мерапрыемствы…**

— Так, гэта сумеснае пасяджэнне Савета па гуманітарным супрацоўніцтве дзяржаў-удзельніц СНД і Праўлення Міжнароднага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва СНД, а таксама круглы стол, які Міністэрства інфармацыі ладзіць сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі і Выдавецкім домам «Звязда», — «Дыпламатыя слова: 500-годдзе беларускага кнігадрукавання ў кантэксце сусветнай культуры». Абедзве пляцоўкі, спадзяюся, стануць прасторай шырокага абмеркавання актуальных клопатаў у сферы гуманітарнага супрацоўніцтва ў межах Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Невыпадкова, што да ўдзелу ў круглым стале мы запрасілі беларускіх літаратараў, кнігавыдаўцоў. А на пасяджэнні савета збіраемся разгледзець і работу інтэрнэт-партала «Сугучча: літаратура і публіцыстыка краін Садружнасці» *sozvuchie.by*.

Дарэчы, якраз у гэтыя дні ў Маскве, на Крамлёўскай плошчы, будзе працаваць і выстаўка «Кнігі Расіі».

Працяг на стар. 4 ►

## Пункцірам

✔ У адпаведнасці з указам Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, больш як 50 прадстаўнікоў розных сфер дзейнасці, у тым ліку культуры, узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Сярод узнагароджаных медалём Францыска Скарыны — выкладчык Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў Алена Атрашкевіч, вядучы майстар сцэны Мінскага абласнога драматычнага тэатра Барыс Донін.

✔ Інтэрнэт-праект па папулярызацыі нацыянальнай літаратуры плануецца рэалізаваць у 2018 годзе, паведаміў першы намеснік міністра інфармацыі Беларусі Ігар Луцкі на прэс-канферэнцыі. Інтэрнэт-праект Нацыянальнай літаратурнай прэміі прадугледжвае размяшчэнне інфармацыі аб аўтарах, прэтэндэнтах на прэмію, са згоды аўтараў — урыўкаў твораў. Гэта дасць магчымасць папулярызаваць беларускую літаратуру, пазнаёміць чытачоў з аўтарамі, прыцягне ўвагу грамадства да лепшых дасягненняў літаратурнай работы, лічыць першы намеснік міністра.

✔ Нацыянальны гістарычны музей Беларусі і Нацыянальны музей Кітая плануюць сумесныя праекты, паведаміў журналістам дырэктар Нацыянальнага музея Кітая Люй Чжаншэнь па выніках падпісання ў Мінску мемарандума аб супрацоўніцтве паміж Нацыянальным гістарычным музеем Беларусі і Нацыянальным музеем Кітая. Люй Чжаншэнь адзначыў, што падпісанне дакумента, які мае на мэце паглыбляць навуковыя і культурныя сувязі паміж Кітайскай Народнай Рэспублікай і Беларуссю, захоўваць, вывучаць і папулярызаваць культурную спадчыну дзвюх краін, — падзея вельмі важная.

✔ Маштабную праграму музычна-харэаграфічнага шоу «Мы — беларусы» прадставіць еўрапейскаму гледачу Беларускі дзяржаўны акадэмічны заслужаны харэаграфічны ансамбль «Харошкі». З 22 чэрвеня калектыў выпраўляецца ў еўрапейскае турнэ з праграмай, якая створана на аснове гістарычнага, археалагічнага і фальклорна-этнаграфічнага матэрыялу, дэманструе станаўленне і развіццё беларускай нацыянальнай культуры з часоў язычніцтва па XX стагоддзе ўключна.

✔ У Гродзенскім раёне для турыстаў адкрыўся самы вядомы — IV форт Гродзенскай крэпасці, адзіны з 13 фартыфікацыйных збудаванняў, цалкам захаваны да нашых дзён. Форт пабудаваны ў 1914 годзе. Нягледзячы на тое, што ён выкарыстоўваўся ў якасці законсерваванага каманднага пункта да 1970-х гадоў, для турыстаў аднавілі атмасферу стагадовай даўнасці. Па меркаванні намесніка старшыні Гродзенскага аблвыканкама Віктара Лісковіча, такія аб'екты павышаюць прывабнасць рэгіёна для замежных турыстаў. Правам без візы наведаць Гродна і навакольную мясцовасць з кастрычніка 2016 года ўжо скарысталіся больш за 14,5 тыс. іншаземцаў.

✔ У Віцебску гэтымі днямі ладзіцца Міжнародны фестываль творчасці выхаванцаў дамоў-інтэрнатаў для дзяцей і маладых людзей з інваліднасцю «Мары здзяйсняюцца», паведамілі ў дабрачынным грамадскім аб'яднанні «Свет без межаў». Гэта ўжо дзясяты па ліку фестываль, але першы для Віцебска. У мерапрыемствах бяруць удзел выхаванцы ўсіх беларускіх дамоў-інтэрнатаў для дзяцей і маладых людзей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. У мінулых фестывалях удзельнічалі дзеці з Расіі, Латвіі, Польшчы, сёлета — з Украіны.

## Стасункі

# ВІНШАВАННІ З КАЗАХСТАНА

**Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, паэт і перакладчык Мікола Мятліцкі адзначаны Міжнароднай літаратурнай прэміяй Казахстана «Алаш».**

Узнагарода — за дзейсныя клопаты беларускага творцы ў галіне прапаганды казахскай паэзіі, казахскай літаратуры ў Беларусі. Найперш — за пераклад на беларускую мову кнігі вершаў Абая Кунанбаева «Стэпавы прастор». Гэты зборнік, які Мікалай Міхайлавіч рыхтаваў з дапамогай казахскіх дарадцаў, пабачыў свет некалькі гадоў таму ў выдавецтве «Літаратура і Мастацтва». Абай — класік казахскай літаратуры, родапачыльнік яе гісторыі на сучасным этапе. Творы Абая зараз выдаюцца ва ўсім свеце. Як сведчанне — калектыўная манаграфія літаратуразнаўцаў «Творчасць Абая Кунанбаева ў замежнай рэцэпцыі», якая толькі што пабачыла свет у Алматы. Сярод іншых аўтараў у беларускім раздзеле выдання выступае, дарэчы, і Мікола Мятліцкі, падрабязна распавядаючы аб працы над пераўвасабленнем вершаў казахскага класіка на беларускую мову.

Адным з першых з Казахстана перакладчыка павіншаваў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Казахстан Жанат Сейдуманаў. Вось што ён, у прыватнасці, піша: «Паважаны Мікалай Міхайлавіч!.. Вы ўнеслі і працягваеце ўносіць неацэнны ўклад у развіццё культурна-літаратурных сувязей паміж нашымі краінамі, у распаўсюджванне казахскай літаратуры на беларускай мове. Шчыра рады, што ваша праца адзначана чарговы раз высокай узнагародай…». Таксама з Казахстана Міколу Мятліцкага павіншавалі Інстытут літаратуры і мастацтва імя М. А. Аўэзава, рэдакцыя часопіса «Простор», Саюз перакладчыкаў Казахстана.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

## З нагоды

# Канферэнцыя і опера — у адной зале

Традыцыйныя «Узвышаўскія чытанні», якія штогод ладзіць Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва ў дзень заснавання літаратурнага згуртавання «Узвышша», упершыню за 17 гадоў існавання выйшлі за межы архіўных памяшканняў. У Мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» 26 мая адбылося ўрачыстае адкрыццё чытанняў, прысвечаных 125-годдзю з дня нараджэння гісторыка, архівіста, пісьменніка Міхася Мялешкі.

Першы намеснік дырэктара Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь Вольга Бірукова ў прывітальным слове звярнула ўвагу на парадаксальную рэч: нягледзячы на тое, што Міхась Мялешка быў архівістам, адшукаць падрабязныя звесткі пра яго ў беларускіх архівах вельмі складана. Выправіць гэтую сітуацыю можа плённае супрацоўніцтва са сваякамі аднаго з пачынальнікаў беларускай архіўнай справы. Першым даследчыкам жыцця і навуковай спадчыны Міхася Мялешкі стаў гісторык, літаратуразнаўца і архівіст Віталь Скалабан, менавіта ён адшукаў у Пецярбургу дачку М. Мялешкі Людмілу і прывёз у Беларусь копіі ўсіх матэрыялаў, што захаваліся ў сямейным архіве: ксеракопіі артыкулаў і дакладаў, лісты, аўтабіяграфіі, матэрыялы грамадска-палітычнай, краязнаўчай і архіўнай дзейнасці, фотаздымкі. На іх аснове і была арганізавана выстаўка «Міхась Мялешка. Жыццё дзеля будучыні», экскурсію па якой правяла дырэктар архіва-музея Ганна Запартыка.

Цікавым музычным напаўненнем навуковай канферэнцыі стала творчая сустрэча з нашчадкамі Міхася Мялешкі: з Санкт-Пецярбурга адмыслова для ўдзелу ва «Узвышаўскіх чытаннях» завітала ў Мінск унучка Міхася Мялешкі кампазітар і канцэртмайстар Наталля Спічко разам з мужам — заслужаным артыстам Расіі Васілём Спічко — і сынам — салістам Міхайлаўскага тэатра Іванам Спічко. Даследчыкі навуковай і краязнаўчай спадчыны М. Мялешкі атрымалі магчымасць паслухаць самарскія народныя песні, сабраныя героем канферэнцыі і апрацаваныя яго ўнучкай (знакаміты вакальны цыкл «Самарскі туесок»), а таксама апынуцца ў атмасферы опернай залы: у выкананні Васіля і Івана Спічко прагучалі класічныя оперныя арыі. Пецярбургскія госці, якія, да слова, упершыню наведалі Беларусь, былі ўсцешаныя тым, што памяць пра іх славутага дзеда і прадзеда ўшаноўваецца на такім узроўні. Прывітаў расійскіх калег дырэктар «Беларускай капэлы», рэжысёр Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, заслужаны артыст Беларусі, прафесар Віктар Скарабагатаў.



*Іван, Васіль і Наталля Спічко.*

З навуковымі дакладамі выступілі прадстаўнікі розных навукова-даследчых устаноў: Станіслаў Рудовіч, Міхаіл Шумейка, Алена Трацяк, Вольга Бабкова, Віктар Жыбуль, Ганна Севярынец, Валеры Назараў, Алена Карп, Аксана Данільчык. Цікавымі звесткамі з досведу працы над дакументальным фільмам пра паэтаў, расстраляных у 1937 годзе, падзяліліся кінарэжысёры Маргарыта Клінава ды Ілья Бажко.

**Жана КАПУСТА,**
**фота аўтара.**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**3 чэрвеня** — *у Маладзечанскую цэнтральную раённую бібліятэку імя М. Багдановіча на прэзентацыю кнігі Міхася Пазнякова «Святло дабрыні». Пачатак а 12-й гадзіне.*

**3 чэрвеня** — *у Маладзечанскі палац культуры на свята беларускай паэзіі «Купала і Колас, вы нас гадавалі». Пачатак а 14-й гадзіне.*

**5 чэрвеня** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі. Пачатак у 14.30.*

**6 чэрвеня** — *на Пушкінскае свята паэзіі «Я помню дзіўнае імгненне» да помніка паэту. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**7 чэрвеня** — *на літаратурны ранішнік «Лета — з добрай кнігай» у публічную бібліятэку № 13 з удзелам пісьменніка Івана Юркіна. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**7 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з украінскай паэтэсай Наталляй Варэнік у публічную бібліятэку № 1 імя Л. Талстога (г. Кіеў). Падчас імпрэзы адбудзецца прэзентацыя паэтычных кніг Наталлі Варэнік і Таццяны Жылінскай. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**7 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Інай Санінай (Лос-Анджэлес, ЗША) у мемарыяльную залу Дома літаратара. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**8 чэрвеня** — *на творчыя сустрэчы з пісьменнікам Міхасём Пазняковым у Салігорскую цэнтральную раённую бібліятэку. Пачатак а 12-й і а 14-й гадзіне.*

**9 чэрвеня** — *у студыю мастацкага чытання «Вобраз» пры СШ № 23 на літаратурную імпрэзу «Лета — з добрай кнігай». Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**1 чэрвеня** — *на сустрэчу з дзіцячымі пісьменнікамі Зінаідай Дудзюк, Расціславам Бензеруком і Таццянай Дземідовіч у кнігарню «Искра». Пачатак а 13-й гадзіне.*

**6 чэрвеня** — *на пасяджэнне літаратурнага клуба «Літара» з удзелам брэсцкіх пісьменнікаў у Гарадскі цэнтр культуры. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**5 чэрвеня** — *на ўрачыстую цырымонію закрыцця Міжнароднага літаратурнага фестывалю «Центр Европы-2017» у Полацкі раённы цэнтр культуры. Пачатак у 19.30.*

**5 чэрвеня** — *на вечарыну памяці пісьменніка Барыса Бележэнкі ў Віцебскую абласную бібліятэку імя У. І. Леніна. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**5 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з дзіцячымі пісьменнікамі Галінай і Сяргеем Трафімавымі ва Усценскую сельскую бібліятэку Аршанскага раёна. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**5 чэрвеня** — *на літаратурную сустрэчу «Святая заступніца беларускай зямлі», прысвечаную Дню памяці прападобнай Еўфрасінні ў гімназію № 1 г. Полацка. Пачатак а 9-й гадзіне.*

**5 чэрвеня** — *на гульню «Шлях у краіну здаровага ладу жыцця» з удзелам пісьменніцы Кацярыны Сосна ў бібліятэку Іодскай сярэдняй школы Шаркаўшчынскага раёна. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**6 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу «Пісьменнікі Трафімавы радуюць новымі кнігамі» з удзелам аўтараў — Галіны і Сяргея Трафімавых — у Бабініцкую сельскую бібліятэку Аршанскага раёна. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**7 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з Галінай і Сяргеем Трафімавымі ў Забалоцкую сельскую бібліятэку Аршанскага раёна. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**8 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу «Тайнае і загадкавае са свету прыроды» з Галінай і Сяргеем Трафімавымі ў Зубаўскую сельскую бібліятэку Аршанскага раёна. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**9 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу «Цуда-кніжкі цуда-дзецям» з Галінай і Сяргеем Трафімавымі ў Засеклінскую сельскую бібліятэку Аршанскага раёна. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**8 чэрвеня** — *на сустрэчу з кіраўніком секцыі прозы аддзялення Наталляй Міхальчук з удзелам студэнтаў гісторыка-філалагічнага факультэта ў МДУ імя А. А. Куляшова з паэтычнай праграмай «"Мы с тобою, словно звёзды, тоже…" Стихи о дочери». Пачатак у 12.30.*

**Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**3 чэрвеня** — *на прэзентацыю калектыўнага агульнагарадскога дзіцячага зборніка «Нашчадкі Рагнеды» ў Дзіцячы парк горада Заслаўя. Пачатак у 11.40.*

**Напярэдадні**

# ...Нам засталася спадчына

**Рок-опера «Курган» і песні на вершы Янкі Купалы прагучаць у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі 7 чэрвеня ў выкананні артыстаў айчыннай эстрады.**



У аснове «Кургана» — кантата Ігара Лучанка для хору, салістаў і сімфанічнага аркестра, а таксама паэма-легенда Уладзіміра Мулявіна «Гусляр», напісаная па матывах паэмы Янкі Купалы. Аўтар «Кургана» — Андрэй Скарынкін, якога з паэтам звязваюць родная сувязі па лініі дзядулі.

У другім аддзяленні артысты выконваюць песні, створаныя беларускімі музыкантамі на вершы Янкі Купалы, прагучаць агульнавядомыя «Спадчына» і «Малітва». Чакаюцца выступленні Дзяржаўнага ансамбля танца Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Валянціна Дудкевіча, арт-гурта «Беларусы», салісткі легендарных «Песняроў» Людмілы Ісупавай. У якасці ганаровага госця ў канцэрце возьме ўдзел народны артыст СССР і Беларусі Ігар Лучанок.

Рок-опера «Курган» ужо гучала на розных канцэртных пляцоўках. У філармоніі яе пачуюць упершыню, і гэта будзе не проста музыка і вакал — візуальнае афармленне (відэа на аснове работ мастака Арлена Кашкурэвіча), харэаграфія, створаная балетмайстрам-пастаноўшчыкам Аляксандрам Аляшкевічам, ператвараюць рок-оперу ў спектакль.

**Юлія КАРДАШ**

**Прэзентацыі**

# НЯСУМНАЕ ПРАЧЫТАННЕ

**Вясёлыя і непаўторныя гісторыі пра дзядулю Пэтсана і яго ката Фіндуса, створаныя фантазіяй шведскага пісьменніка Свэна Нурдквіста, ужо даўно знайшлі заўзятых прыхільнікаў сярод нашых дзетак. Дзякуючы перакладчыцы Надзеі Кандрусевіч гэтыя гісторыі гучаць на беларускай мове і набываюць усё большую папулярнасць.**

Мы ўжо ведаем, як Пэтсан і Фіндус святкуюць Каляды, як адзначаюць дзень нараджэння і як Фіндус згубіўся, калі быў маленькі. Сёлета, напярэдадні летніх канікул, маленькія чытачы атрымалі адразу дзве новыя кнігі — «Пэтсан сумуе» і «Паляванне на ліса». Прэзентацыя выданняў ужо традыцыйна праходзіла з удзелам акцёраў Купалаўскага тэатра Ганны Хітрык і Паўла Харланчука ў сталічнай галерэі «Ў» пры падтрымцы Пасольства Швецыі ў Беларусі.

Майстэрскае пераўвасабленне акцёраў у галоўных герояў, безумоўна, дазволіла дзецям адчуць сябе гледачамі сапраўднай тэатральнай пастаноўкі, нягледзячы на тое, што дзея адбывалася ў звычайнай зале, а вобразы стваралі з дапамогай нязначных элементаў касцюмаў. Бацькі кажуць, што, чытаючы дзецям кнігі Свэна Нурдквіста, міжволі пераймаюць інтанацыі Г. Хітрык і П. Харланчука — настолькі моцнае ўражанне робіць акцёрскае прачытанне.

Часта прэзентацыі дзіцячых кніг бываюць цікавыя дарослым і не выклікаюць такой жа станоўчай рэакцыі ў дзяцей. Праўда, апошнім часам арганізатары адыходзяць ад традыцый доўгіх прамоў аўтараў, укладальнікаў і перакладчыкаў. На мерапрыемствах з'яўляюцца маляванкі, цукеркі, а то і ўвогуле арганізоўваецца цэлая кухня, як падчас прэзентацыі кнігі Аксаны Спрынчан «Смачная кніга». Дзякуючы новым падыходам знаёмства з дзіцячай кнігай на паліцах кнігарняў і бібліятэк ператвараецца ў своеасаблівы від сямейнага адпачынку, дзе тэатральнае відовішча — адначасова і гульня, і набыццё новага камунікатыўнага досведу.

**Яўген ГЛЕЧЫК,**
**фота аўтара**




*Павел Харланчук, Надзея Кандрусевіч, Ганна Хітрык.*

**Конкурсы**

# Дызайнерскі вал

## Хто стане аўтарам афішы да выстаўкі Айвазоўскага?

Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь напярэдадні 200-годдзя з дня нараджэння марыніста Івана Айвазоўскага аб'яўляе конкурс на стварэнне плаката-афішы да юбілейнай выстаўкі мастака. Узяць удзел могуць як прафесійныя дызайнеры, так і пачаткоўцы. 12 лепшых работ па выніках конкурснага адбору будуць прадстаўлены ў Мастацкім музеі ў перыяд экспанавання выстаўкі Айвазоўскага.

Можна самавыяўляцца, але не забываць, што афіша павінна ўключаць вобразную частку на аснове карціны або некалькіх карцін самога Айвазоўскага. Аднак іх можна інтэрпрэтаваць у адпаведнасці з сучасным бачаннем творчасці мастака. І важна не забыць пра назву выстаўкі, музея, дзе яна будзе ладзіцца, і міністэрства, якое апякуе праект. Конкурсныя работы прымаюцца арганізатарам (музей) з 1 па 20 чэрвеня 2017 года.

**Марыя АСІПЕНКА**

**Дайджэст**

• Абвясцілі вынікі юбілейнага, 70-га, Міжнароднага Канскага кінафестывалю. Прыз журы, якое ў гэтым годзе ўзначальваў іспанскі рэжысёр Пэдра Альмадовар, атрымаў фільм расійскага рэжысёра Андрэя Звягінцава «Нелюбоў». Гран-пры, прысуджанае журы, дасталася стужцы французскага рэжысёра Рабэна Кампіё «120 удараў у хвіліну». Узнагарода за лепшую жаночую ролю адышла да Даян Кругер («Зацямненне»), за мужчынскую — да акцёра Хоакіна Фенікса («Ты ніколі не быў тут»). Лепшым рэжысёрам сёлета назвалі амерыканку Сафію Копалу за яе новую кінастужку «Ракавая спакуса». Лін Рэмсі («Ты ніколі не быў тут») і Ёргас Ланцімас («Забойства свяшчэннага аленя») атрымалі прызы ў намінацыі «Лепшы сцэнарый». Галоўная ўзнагарода кінафестываля «Залатая пальмавая галіна» выправілася ў Швецыю разам з фільмам Рубена Эстлунда «Квадрат».

• Брытанскае выданне *The Independent* апублікавала дадзеныя даследавання навукоўцаў Кінгстанскага ўніверсітэта (Лондан). Згодна з вынікамі эксперымента, аматары чытання лепш разумеюць пачуцці іншых людзей і здольныя на больш глыбокае суперажыванне. Цікава, але розныя літаратурныя жанры па-рознаму ўплываюць на наш эмацыянальны інтэлект. Добра развітая эмпатыя назіраецца ў прыхільнікаў драматычнай і рамантычнай літаратуры, лёгкасць у фарміраванні зносін — у аматараў гумарыстычных жанраў, рознабаковае мысленне — у чытачоў эксперыментальных тэкстаў, устойлівыя сацыяльныя паводзіны — у аўдыторыі мастацкай літаратуры.

• Вядомага амерыканскага кінарэжысёра Джэймса Кэмерана абвінавацілі ў плагіяце «Тытаніка» яхтсмен з Фларыды, продкі якога плылі ў ЗША на «Тытаніку». Ён сцвярджае, што вобраз, увасоблены акцёрам Леанарда Дзі Капрыа ў кінастужцы, заснаваны на іх сямейнай гісторыі, якую Джэймс Кэмеран выпадкова пачуў у 1988 годзе. Згодна з гісторыяй, падчас катастрофы жанчына перажыла трагедыю, а мужчына загінуў. Яхтсмен звярнуўся ў суд, дзе хоча спагнаць з рэжысёра 300 мільёнаў долараў і адзін працэнт ад касавых збораў фільма. Джэймс Кэмеран сітуацыю пакуль ніяк не каменціруе.

• Сталі вядомыя імёны фіналістаў расійскай нацыянальнай кніжнай прэміі «Вялікая кніга». Гэта жаданая ўзнагарода для аўтараў: выданні, якія напрыканцы мая трапляюць у спіс «Вялікай кнігі», звычайна становяцца бестселерамі. Другі раз за ўсю гісторыю конкурсу ў спіс фіналістаў не патрапіла ніводнай жанчыны: сёлета на прэмію прэтэндуюць выключна пісьменнікі-мужчыны. Гэтым разам журы «Вялікай кнігі» прапануе звярнуць увагу на творы Віктара Пялевіна, Сяргея Шаргунова, Андрэя Рубанава, Міхаіла Гігалашвілі, Льва Данілкіна ды іншых.

# ЛіМ-каляндар

**29 мая** — 110 гадоў з дня нараджэння Сямёна Талкачова (1907 — 1970), беларускага піяніста, канцэртмайстра, педагога, народнага артыста БССР.

**29 мая** 85 гадоў споўнілася Леаніду Леўчанку, беларускаму жывапісцу.

**29 мая** 80 гадоў адзначыла Людміла Машчэнская, беларускі мовазнаўца.

**29 мая** — 80 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Рамейкі (1937 — 2012), беларускага мастака манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, жывапісца, графіка.

**29 мая** — 25 гадоў творчаму калектыву «Беларуская капэла». Мастацкі кіраўнік Віктар Скарабагатаў.

**30 мая** 90-гадовы юбілей адзначыў Вітаўт Кіпель, грамадскі дзеяч беларускай эміграцыі, гісторык, літаратуразнаўца, бібліёграф, публіцыст. Жыве ў ЗША.

**30 мая** — 80 гадоў з дня нараджэння Барыса Казакова (1937 — 2008), беларускага жывапісца, графіка, мастака тэатра, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

**30 мая** 80 гадоў адзначыў Ігар Раеўскі, беларускі і расійскі дырыжор, хормайстар, заслужаны артыст БССР, народны артыст РСФСР.

**1 чэрвеня** — 90 гадоў з дня нараджэння Паліны Дружыны (1927 — 2000), беларускай спявачкі, заслужанай артысткі БССР.

**1 чэрвеня** 90-годдзе адзначыла Леаніла Малаш-Аксамітава, беларуская фалькларыстка.

**1 чэрвеня** 70 гадоў споўнілася Георгію Каранту, беларускаму піяністу, заслужанаму артысту БССР.

**1 чэрвеня** 60-гадовы юбілей адзначыў Аляксандр Пашкевіч-Негарэльскі, беларускі жывапісец.

**1 чэрвеня** 60 гадоў адсвяткаваў Аляксандр Сувораў, беларускі жывапісец, графік, мастак манументальна-дэкаратыўнага мастацтва.

# ДАРОГІ, ЯКІЯ НАС ЯДНАЮЦЬ

**— Невыпадкова мастацкая літаратура становіцца прадметам такой сур'ёзнай увагі?..**

— І мастацкая літаратура, і публіцыстыка… Але самае галоўнае: даўно наспеў час больш уважліва падыходзіць да выкарыстання гуманітарнай, асветніцкай інфармацыі ў захаванні і развіцці стасункаў паміж краінамі і народамі. Мне падаецца, што інтэрнэт-партал «Сугучча» (пры ўмове, што пяройдзе на новую, больш сур'ёзную платформу, тэхналагічна зробіць крок наперад) якраз і здольны годна вырашаць гэтую няпростую задачу. Сёння ж да мадэрацыі ў фармаце прадстаўлення чытачам свету нацыянальных літаратур праз беларускі інтэрнэт-рэсурс ужо далучыліся ўсе краіны Садружнасці. Пэўна, паспрыяла гэтаму і тая праца, якую ў галіне міжнародных літаратурных, кніжных зносін вяло Міністэрства інфармацыі і ў ранейшыя гады. Яшчэ ў 2007 годзе мы пачалі праводзіць міжнародны круглы стол пісьменнікаў пад агульнай ідэяй «Мастацкая літаратура як шлях адзін да аднаго». Успамінаю, колькі ж пісьменнікаў за гэты час пабывала не толькі ў Мінску, але і ў гарадах, дзе ладзіліся Дні беларускага пісьменства. Назаву хаця б некаторых: Аляксандр Казінцаў, Юрый Казлоў, Георгій Прахін, Алесь Кажадуб, Аляксандр Лівергант, Любоў Турбіна, Барыс Косцін, Вячаслаў Купрыянаў, Валерый Казакоў, Рэнат Харыс, Вячаслаў Ар-Сяргі, Роберт Мінулін, Уладзімір Бяразеў… І гэта — толькі з Расіі. Прыязджалі пісьменнікі з Азербайджана, Арменіі, Украіны, Казахстана, Таджыкістана, Малдовы… А яшчэ мы трэці год запар ладзім міжнародны сімпозіум літаратараў «Пісьменнік і час». І на нашай беларускай пляцоўцы празаікі, паэты, перакладчыкі, публіцысты краін СНД сустракаліся, знаёміліся з калегамі з Балгарыі, Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Італіі, Чарнагорыі, Сербіі, Кітая, Турцыі, Пакістана, Ізраіля…

**— Гэта значыць, што эмпірычнага матэрыялу для *sozvuchie.by* звышдастаткова…**

— Цяперашнім мадэратарам у Выдавецкім доме «Звязда» толькі застаецца,

Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.



Фота Надзеі Бужан.

што набіраць хуткасці і вылучаць розныя тэхналагічныя навацыі, якія б дапамагалі як мага шырэй прадстаўляць жыццё народаў у краінах Садружнасці…

Тут магла б знайсці сваё месца і электронная бібліятэка сучаснай мастацкай літаратуры краін СНД… Ведаю, што за апошнія гады па-беларуску і па-руску мы выпусцілі не толькі серыю «Сугучча сэрцаў», а стварылі сапраўды велізарную бібліятэку сучаснай прозы і паэзіі народаў Садружнасці. Досыць многа кніг выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда»: туркменскіх паэтаў Агагельды Аланазарава, Касыма Нурбадава, казахскіх — Абая, Немата Келімбетава, пісьменнікаў Расіі — Любові Турбінай, Алеся Кажадуба, Валерыя Казакова, Роберта Мінуліна, Вячаслава Ар-Сяргі, Барыса Косціна, Валянціна Распуціна, Аляксандра Чэрняка, Уладзіміра Шуглі, Яўгенія Еўтушэнкі… У «Мастацкай літаратуры», прыватных выдавецтвах, у серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі» ў нас выдаюцца кнігі пісьменнікаў краін СНД…

**— І літаратурна-мастацкая перыёдыка ўважлівая да нацыянальных літаратур Садружнасці…**

— У «Нёмане» для гэтага ёсць адмысловая рубрыка, ці нават цэлы раздзел, — «Сябрына». Даволі шмат перакладных твораў друкуецца на старонках газеты «Літаратура і мастацтва», у іншых выданнях. Трывалыя стасункі ў беларускіх часопісаў з казахскімі літаратарамі. Гэта заўважна і па партале *sozvuchie.by*. Гляджу, што побач са старонкай «Літаратурны Казахстан» тут ёсць і асобныя інтэрнэт-старонкі «Абай крочыць па планеце», «Свет Мухтара Аўэзава», «Немат Келімбетаў»… І яны актыўна насычаюцца, з дня ў дзень дапаўняюцца. Пра Абая і Аўэзава матэрыялы выстаўляюцца на розных мовах: зразумела, на рускай, казахскай і беларускай, але яшчэ і на нямецкай, англійскай ды іншых. Вучоныя-літаратуразнаўцы з Казахстана лічаць за гонар прадставіць свае даследаванні менавіта на беларускім інтэрнэт-рэсурсе. Толькі з Інстытута літаратуры і мастацтва імя М. А. Аўэзава з Алматы ў нас некалькі актыўных карэспандэнтаў: кандыдат філалагічных навук Святлана Ананьева, доктар філалагічных навук Аліжан Хамраеў, кандыдат філалагічных навук Айнур Машакава. А яшчэ з Казахстана нам дасылаюць свае творы пісьменнікі Амантай Ахетаў, Рыма Арцем'ева, Любоў Шашкова, Валерый Міхайлаў…

**— Безумоўна, магчымасці ў электронных сацыяльных сетак зусім іншыя, чым розгалас ад публікацыі ў навуковым часопісе з абмежаваным тыражом.**

— Думаю, што ў дадзеным выпадку спрацоўвае не толькі гэта. Проста спецыялістам у той ці іншай гуманітарнай галіне хочацца адчуваць найперш увагу з боку пэўнага міжнароднага асяроддзя. А да *sozvuchie.by* цягнуцца і ў якасці аўтараў, і ў якасці чытачоў спецыялісты, пісьменнікі з усяго свету. Электронны рэсурс патрабуе новага фармату, новых творчых тэхналогій і, калі хочаце, усведамлення, што ў інтэрнэт-рэсурсе павінны працаваць іншыя жанры. Вось, напрыклад, нядаўна сайт размясціў поўны тэкст адной аповесці, якая падчас падрыхтоўкі да публікацыі і пасля надрукавання ў папяровай версіі выклікала шмат дыскусій, спрэчак. Побач з тэкстам — рэцэнзіі, артыкулы, рэплікі. Своеасаблівы літаратурна-крытычны форум. Калі іншыя калегі прачыталі частку даволі сур'ёзных водгукаў, шмат у каго ўзнікла задума і самому далучыцца да абмеркавання. Хіба гэта не цікава?!.

**— Але, несумненна, такі праект знойдзе сябе, пачне прыносіць медыйную карысць, здольны стаць знакавым і рэзанансным, калі будзе рабіцца ў супольніцтве з іншымі краінамі…**

— Дзеля гэтага якраз беларускі бок і рыхтуе размову пра партал *sozvuchie.by* на пашыраным пасяджэнні савета з удзелам прадстаўнікоў розных краін. У нас ужо сёння ёсць досвед зносін з нацыянальнымі пісьменніцкімі аб'яднаннямі, рознымі навуковымі і масавымі бібліятэкамі, літаратурнымі музеямі з розных краін Садружнасці. І таму такімі цікавымі і паўнавартаснымі падаюцца, на мой погляд, згаданыя старонкі, прысвечаныя казахам Абаю, Мухтару Аўэзаву, Немату Келімбетаву, удмурту Вячаславу Ар-Сяргі, калмыку Міхаілу Хонінаву, армянам Гевору Эміну, Авеціку Ісаакяну, Егішу Чарэнцу… Ды і праз партал расказваем свету пра пісьменнікаў Беларусі. У год 500-годдзя беларускага кнігадрукавання актыўна працуе старонка «Францыск Скарына». З імёнамі беларускіх класікаў Якуба Коласа і Янкі Купалы таксама звязаныя асобныя інтэрнэт-пляцоўкі. А сёлета якраз Беларусь адзначае 135-гадовы юбілей гэтых мастакоў слова. Вось і ёсць магчымасць перакладчыкам, літаратуразнаўцам з іншых прастораў зазірнуць на партал, знайсці тэксты для перакладу, пазнаёміцца з новымі літаратуразнаўчымі, гісторыка-літаратурнымі даследаваннямі, а таксама па меры неабходнасці звярнуцца да ілюстрацыйнага матэрыялу. І гэта пры ўмове, што ўсе матэрыялы ўзроўневыя, вывераныя, пазбаўленыя пустой сенсацыйнасці.

Яшчэ адна важная акалічнасць — партал *sozvuchie.by* спрыяе прасоўванню нацыянальных літаратур у шырокі свет. Робіцца гэта сёння, вядома, праз рускую мову як мост для зносін. Так што спадзяюся на развіццё беларускага інтэрнэт-праекта. Вельмі хацелася б бачыць гэты электронны прадукт — «Сугучча: літаратура і публіцыстыка краін Садружнасці» *sozvuchie.by* — міжнародным гуманітарным парталам.

**Гутарыў Мікола БЕРЛЕЖ**

# ІМКНЁМСЯ ПАКАЗАЦЬ ЛЕПШАЕ

Па штогадовай чэрвеньскай традыцыі ў Маскве на кніжным фестывалі «Красная плошча» Рэспубліка Беларусь прадставіць свае лепшыя кнігі, выдадзеныя апошнім часам дзяржаўнымі і прыватнымі выдавецтвамі.

«Белкніга» і айчынныя выдавецтвы пакажуць наведвальнікам аўтарытэтнай і любімай масквічамі выстаўкі, калегам, пісьменнікам з розных рэгіёнаў Расіі самыя розныя выданні, якія адлюстроўваюць шырокую айчынную кніжную палітру. «Мастацкая літаратура», у прыватнасці, пазнаёміць з чатырохтомнікам «Вячэрняя казка», які ўжо займеў папулярнасць у Беларусі. У чатырох прыгожа ілюстраваных тамах сабраны 365 казак, адрасаваных дзецям. Атрымліваецца: на кожны дзень, кожны вечар — адна казка.

— Мы ўзялі з сабою і кнігу вершаў славутага беларускага паэта Алеся Пісьмянкова «Чаму вожык не стрыжэцца?», — каменціруе здабыткі выдавецтва яго дырэктар Алесь Бадак. — І не маглі не ўзяць у Маскву ёмісты фаліянт «Францыск Скарына. Са слаўнага горада Полацка», які дапамог падрыхтаваць Алесь Суша. Скарынаўская, кнігазнаўчая тэма і надалей сёлета будзе заставацца для нас скразной…

Дарэчы, да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ў Маскве наладжаны цэлы асобны раздзел экспазіцыі. У яго ўвойдуць і трохтомнік «Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі» — «Францыск Скарына. Чалавек-легенда», «Францыск Скарына. Чалавек свету», «Францыск Скарына. Чалавек-энцыклапедыя». Выдавецкі дом «Звязда» прадставіць ужо вядомае выданне «Францыск Скарына на мовах народаў свету», а «Кніжны Дом» — досыць захапляльную кнігу для дзяцей лаўрэата Нацыянальнай літаратурнай прэміі Сяргея Клімковіча «Скарбы першадрукара». Пакажуць арганізатары беларускага стэнда і яркую кнігу Уладзіміра Арлова і Паўла Татарнікава «Айчына: маляўнічая гісторыя. Ад Рагнеды да Касцюшкі» (выдавецтва «Тэхналогія»). «Народная асвета» збіраецца пазнаёміць з кнігай Анатоля Цітова «Шляхамі Францыска Скарыны», «Бяловагруп» — з сапраўды ўнікальным выданнем «Мінск. Праспект Незалежнасці». Ёсць упэўненасць, што масквічы, расіяне не абмінуць увагай кнігу Выдавецкага дома «Звязда» — «Сустрэчы з родным і блізкім», на старонках якой можна адкрыць многія «беларускія адрасы» ў Расіі. Гэтае выданне будзе цікавае ўсім, хто неабыякавы да беларускага і расійскага краязнаўства.




Фота Кастуся Дробава.

Па традыцыі беларускія выдаўцы вязуць шмат дзіцячай літаратуры, выдатна аформленай лепшымі айчыннымі кніжнымі графікамі. Гэта, у прыватнасці, выданні «Адукацыі і выхавання», «Мастацкай літаратуры», Выдавецкага дома «Звязда», «Народнай асветы», «Пачатковай школы» ды іншых беларускіх выдавецтваў.

**Сяргей ШЫЧКО**

**ДАТАпіс: Мінск**

***На пачатку 2017 года створаны рэспубліканскі арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання: юбілей мае дзяржаўнае значэнне для Беларусі. Плённая падрыхтоўка да знакавага юбілею пачалася яшчэ летась: шэраг выдавецтваў краіны выдалі кнігі, прысвечаныя спадчыне першадрукара. Напрыклад, кніга «Францыск Скарына на мовах свету» з'явілася ў Выдавецкім доме «Звязда». Адметна, што Гран-пры ў конкурсе «Мастацтва кнігі» атрымала факсімільнае выданне «Кніжная спадчына Францыска Скарыны», і ўзнагародамі адзначаны шэраг іншых выданняў, прысвечаных Скарыну. Таксама шэраг новых адметных кніжных праектаў прадставілі ў лютым у межах XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, у тым ліку кнігу паэта Алеся Разанава «Маем найбольшае самі» выдавецтва «Мастацкая літаратура». Пра ролю асобы ў развіцці грамадства — праз постаць Скарыны — разважалі ўдзельнікі Міжнароднага сімпозіума «Пісьменнік і час»: дзейнасць беларускага першадрукара стала часткай сусветнай кніжнай гісторыі. Ужо на Мінскай міжнароднай выстаўцы-кірмашы можна было бачыць Скарыну: на паштоўках і плакатах, буклетах і сувенірах, у даследаваннях навукоўцаў і папулярнай літаратуры — як і належыць герою нацыі.***

# СІМВАЛ БЕЛАРУШЧЫНЫ

## Францыск Скарына праз прызму самасвядомасці

Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга «Францыск Скарына. Са слаўнага горада Полацка». У выданні сабраны самыя цікавыя артыкулы знакамітых пісьменнікаў, навукоўцаў, даследчыкаў, культурных і грамадскіх дзеячаў пра жыццё і дзейнасць Першадрукара цягам апошняга стагоддзя. Выданне атрымалася прадстаўнічым, яркім, пазнавальным.

Здаецца, усё, што можна было напісаць пра нашага знакамітага суайчынніка, ужо напісана. Тая частка біяграфіі Францыска Скарыны, якую зараз можна дакладна ўзнавіць, перайшла ў шэраг агульнавядомых рэчаў, а яго значэнне для беларускай і нават сусветнай культуры неаднаразова пацверджана. Што ж вылучае гэтую кнігу сярод іншых выданняў скарынаўскай тэматыкі? Адметнасць і нават нечаканасць кнігі «Францыск Скарына. Са слаўнага горада Полацка» ў тым, што праз публікацыю раней надрукаваных і знаёмых нарысаў атрымалася ўзбагаціць справу Асветніка. Сабраныя пад адной вокладкай, тэксты ўзаемадзейнічаюць і атрымліваюць дадатковы, звышаўтарскі, сэнс.

Кніга складаецца з некалькіх пластоў. Чытач, у залежнасці ад асабістых схільнасцей ды ўзроўню філалагічнай і гістарычнай падрыхтоўкі, можа засяродзіцца на кожным з іх. Першы, відавочны, пласт — асоба Францыска Скарыны. Першы раздзел, які мае назву «Дзеі Скарыны», прысвечаны публікацыям біяграфічнага кірунку. Цікава прасачыць, як журналісты і літаратуразнаўцы збіралі агульнавядомыя цяпер звесткі, друкавалі артыкулы, праз якія масавая аўдыторыя ўпершыню адкрывала для сябе Скарыну. Другім пластом кнігі можна назваць своеасаблівы агляд скарынаўскай эпохі, пазнавальныя рэмаркі, скіраваныя на павышэнне агульнай адукацыі чытача. Напрыклад, Сцяпан Александровіч у артыкуле «Францыск, Скарынін сын з Полацка» зазначае: «Францыск Скарына быў сучаснікам вялікіх падарожнікаў — Калумба, Амерыга Веспучы, Магелана і Васка да Гамы, славутых італьянскіх мастакоў — Леанарда да Вінчы, Рафаэля і Мікеланджэла. Толькі на год раней, чым з'явілася першая кніга беларускага друку, выйшла "Утопія" Томаса Мора. У той жа год, калі Ф. Скарына стаў ля друкарскага станка, Марцін Лютэр выступіў супраць продажу індульгенцый. У 1519 годзе, калі беларускі асветнік заканчваў друкаванне кніг у Празе, Магелан накіраваўся ў падарожжа вакол свету. У 1529 годзе, калі Ф. Скарына знаходзіўся ў Вільні, полымя сялянскай вайны пад кіраўніцтвам Томаса Мюнцэра ахапіла ўсю Германію».

Апошні пласт — прыхаваны, але надзвычай актуальны — утрымлівае пункт гледжання саміх публіцыстаў, большасць якіх — перадавыя культурныя дзеячы сваёй эпохі. Як слушна заўважыў у прадмове да кнігі ўкладальнік выдання Алесь Суша, «Францыск Скарына, які стаяў ля вытокаў нацыянальнай беларускай культуры, з'яўляецца яе сімвалам». Сімвал — гэта ўмоўны, зборны мастацкі вобраз, які мае на мэце перадаць пэўную ідэю, закладзеную аўтарам. Такім чынам, замест сапраўднага Францыска Скарыны, рэальную асобу якога мы ўжо не здолеем спасцігнуць, паўстае герой, патрэбны беларусам: асветнік, гуманіст, доктар медыцынскіх навук, выпускнік Падуанскага ўніверсітэта, нарэшце, Першадрукар усходніх славян. Вобраз Скарыны дапамагаў абуджаць самасвядомасць, абгрунтоўваў гістарычную значнасць беларусаў, сцвярджаў права нашай нацыі на асобную дзяржаўнасць.

У матэрыялах пра Францыска Скарыну захавалася эпоха, у якой жылі аўтары тэкстаў. Славуты беларус падаваўся праз прызму светабачання вядомых культурных дзеячаў, станавіўся носьбітам іх думак і ідэй.

Трэба ўлічваць, што многія з публікацый з'явіліся пад уплывам святкавання 400 і 450-годдзя беларускага кнігадрукавання. Юбілейныя ўрачыстасці 400-годдзя прыпадалі на 1917 — 1926 гг., калі на культурнай сферы пакінулі адбітак Першая сусветная вайна і падзеі рэвалюцыі. Цікава паглядзець на каментарый Максіма Гарэцкага ў артыкуле «Доктар Францыск Скарына» за 1917 год: "На гэты бок акопаў нешта не чуць таго і свята. 400-лецце друку нашага пройдзе ціхенька адзначаным у нас і забытым у палякаў і маскоўцаў». Бачым, што аўтарскія матэрыялы пра Францыска Скарыну і яго эпоху былі актуальныя для іх сучаснікаў.




Кніга зацікаўлівае і з пункту гледжання гісторыі журналістыкі, і з пункту гледжання філалогіі. Выявы старонак такіх выданняў, як "Наша Ніва", публіцыстыка вядомых пісьменнікаў і літаратуразнаўцаў прыцягвае ўвагу не толькі як носьбіт інфармацыі пра Першадрукара. У раздзеле «Слова Скарыны» праведзена паўнавартаснае філалагічнае даследаванне, бо першыя друкаваныя беларускія кнігі — важны аб'ект для вывучэння.

Асобна трэба звярнуць увагу на працу Усевалада Свентахоўскага, адказнага за мастацкае афармленне і дызайн кнігі. Выданне атрымалася надзвычай прыгожае і добра ілюстраванае. Аўтарскія матэрыялы перамяжоўваюцца з гравюрамі, малюнкамі, фотаздымкамі, узорамі распрацоўкі шрыфтавых гарнітур паводле шрыфту Скарыны, адсканаванымі старонкамі газет, часопісаў і нават кніг самога Францыска Скарыны. Заўважна, што першая вядомая беларускамоўная публікацыя пра Францыска Скарыну — артыкул Сяргея Палуяна «Калі друкавалася першая беларуская "Біблія"?», надрукаваны ў "Нашай ніве" — змешчаная ў першапачатковым выглядзе як адсканаваная старонка газеты.

У выніку кніга «Францыск Скарына. Са слаўнага горада Полацка» атрымалася добрым увасабленнем цікавай задумы.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

---

Кніга «Францыск Скарына. Са слаўнага горада Полацка» насычаная цікавымі фактамі пра жыццё і творчасць Першадрукара. Акрамя дакладных звестак, на старонках выдання можна сустрэць і арыгінальныя меркаванні даследчыкаў. Нягледзячы на тое, што адшукаць доказы на такім вялікім часавым прамежку вельмі складана, некаторыя тэорыі вартыя ўвагі.

Прыкладам, пісьменнік і літаратуразнаўца Алег Лойка сцвярджаў, што Францыск Скарына дакладна ўсведамляў значэнне сваёй друкарскай дзейнасці не толькі для суайчыннікаў, але і для нашчадкаў. Дзеля гісторыі ён захаваў даты, калі пабачылі свет самыя значныя яго выданні. Больш за тое, пісьменнік меркаваў, што дзень узнікнення беларускага кнігадрукавання, 6 жніўня 1517 года, быў невыпадковы. Францыск Скарына загадзя абраў менавіта гэтую дату для выдання Псалтыра: «Будучы прававерным хрысціянінам, Скарына не мог працаваць у гэты дзень ці паказваць праваслаўнаму, што ён на свята працаваў. Але Скарына не зважаў на забароны, бо яму важная была сімволіка: шэсць дзён Бог ствараў свет, шостага скончана ім, Скарынам, друкаванне Псалтыра; 6 жніўня — свята Спаса-выратавання, дык дзеля выратавання душаў яго Псалтыр; 6 — свята праабражэння-пераўтварэння, дык дзеля пераўтварэння душ, тварэння новых душ, адрыву іх ад цемры і далучэння да святла — Псалтыр!». У доказ тэорыі Алег Лойка звярнуўся да ўласнага партрэта Першадрукара, які той змясціў на старонках святой кнігі. На думку пісьменніка, гэты факт сведчыць пра гуманістычныя імкненне Скарыны выйсці за межы сярэдневяковых дагматаў і наблізіць «чалавека-тварца» да «Бога-тварца».

Беларускі мастацтвазнаўца Мікола Шчакаціхін зрабіў спробу выйсці на дзень нараджэння Францыска Скарыны праз яго герб, так званае «Сонейка маладзіковае». Паколькі Першадрукар не належаў да шляхты, то, хутчэй за ўсё, азначаны герб з'яўляўся не геральдычным знакам яго роду, а сімвалам, які Скарына абраў самастойна. Але ў сярэднявеччы спалучэнне сонца і месяца лічылі прыкметай няшчасця. Што магло падштурхнуць асветніка да такога нечаканага выбару? «…Знак у "гербе" Скарыны хутчэй за ўсё трэба тлумачыць як знак зацьмення; знак гэты быў прыняты Скарынам, нягледзячы на тое, што ён меў значэнне благога вешчавання, і, мабыць, нават уласна з гэтай прычыны; ужыванне яго ў "гербе" магло мець значэнне прадахоўнага талісмана з мэтаю забяспечыць сябе ад таго благога ўплыву, які, згодна забабонным вераванням сярэднявекоўя, мог аказаць на лёс Скарыны нейкі факт сонечнага зацьмення, выпадкова датычны да якога-небудзь аднаго з важных момантаў яго жыцця». Мікола Шчакаціхін дапускае, што такім важным момантам быў год нараджэння Францыска Скарыны. Пасля вывучэння астранамічных дадзеных ды супастаўлення іх з вядомымі фактамі біяграфіі Першадрукара даследчык прыводзіць гіпотэзу, што Францыск Скарына мог з'явіцца на свет 6 сакавіка 1486 года.

---

«Дык во, тым цікавей і галаўней, што ў гіторыі нашай, якая поўна вострага, часам дужа шкоднага краю, змагання вер, — праваслаўнай, каталіцкай, уніяцкай, арыянскай, лютэрскай, кальвінскай — у гэтай гісторыі ёсціка вялікі чалавек, вялікі магутны дух і так вышэйшы за рознае раз'юшанае чалавечае важджэнне аб драбязе, — што запісаў у гісторыю не аб тым, як дзеля тытулаў і прывілеяў перадаўся ў пануючую веру; не аб тым, як, баронячы самабытнасць роднага краю, усё жыццё вадзіўся з "ворагамі", сваімі ж братамі, што зводзілі на нет Бацькаўшчыну; але запісаў у гісторыю аб тым, як светлы і чысты, вышэйшы ад спрэчак аб праўдзе веры і звадак, усё жыццё, аднак, працаваў на карысць роднага люду, тварыў яго культуру, здабываў яму шчасце і славу».

**Максім Гарэцкі**

«У асобе Скарыны мы бачым культурнейшага чалавека сваіх часоў, які нічым ня ўступаў тагачасным заходна-эўрапейскім дзеячам ні розумам, ні энэргіяй, ні сваімі шырокімі помысламі. Дабыўшы высокую асьвету ў Эўропейскіх унівэрсытэтах, ён пасьвячае сябе выключна служэньню свайму народу».

**Вацлаў Ластоўскі**

«Францыск Скарына быў з тых, першых, хто, кажучы сучаснымі словамі, стварыў стартавую пляцоўку для рыўка Чалавецтва ў ягоную неабсяжную будучыню. Гэты беларус быў з тых, самых першых, што стварылі лепшых з нас такімі, якія мы ёсць. Ва ўзбраенні ведаў, усемагутнасці мозгу, адкрытай шчырасці добрага сэрца. З навукай у адной руцэ і мастацтвам — у другой. З катаржнай працы такіх, як ён (а для ўсходніх славян — з яго), пачынаецца ўзлёт гуманізму, ідэі раўнапраўя (хай сабе спачатку ўтапічнай), рэнесанс мастацтва, літаратуры, навукі».

**Уладзімір Караткевіч**

«Са шматлікіх прадмоў, пасляслоўяў, каментарыяў да выдадзеных ім кніг выяўляецца светапогляд Скарыны і грамадскае значэнне той працы, якую ён лічыў для сябе самай важнай. Выдатны асветнік свядома і акрэслена ставіў сабе мэту зрабіць добрую справу на карысць людзям. І людзі гэтыя былі ў яго не абстрактныя. Ён ніколі не парываў духоўнай сувязі з народам, з якога выйшаў. Падпісваючы свае працы, не забываў падкрэсліць, што ён сын Скарыны з слаўнага града Полацка».

**Кандрат Крапіва**

«Сапраўды, прадстаўнік эпохі позняга Рэнесансу Скарына быў чалавекам усебаковых інтарэсаў і кіпучай энергіі. І ён пакінуў яскравы след геніяльнасці свайго розуму і кіпучай энергіі ва ўсіх галінах культуры, ад кнігадрукавання, права да тэатра».

**Пятро Глебка**

«Тым звяном, якое злучала красу і дабро, для Скарыны быў ідэал дасканалага чалавека. Сярэдневяковую гармонію Бога і яго стварэння — Сусвету — ён хацеў дапоўніць рэнесанснай зладжанасцю паміж духам і целам, асобай і грамадствам, народам і дзяржавай. Вось тут эстэтыка Скарыны пераходзіць у этыку, у ідэал справядлівага чалавека і дасканалага грамадства».

**Уладзімір Конан**

---

**ДАТАпіс: Вільнюс**

***На XVIII Вільнюскай кніжнай выстаўцы-кірмашы беларускія выдаўцы зрабілі акцэнт на кнігах, што ў кантэксце сёлетняга юбілею: такія асобы, як Скарына, павінны яднаць народы. На сустрэчы ў гімназіі імя Францыска Скарыны ў Вільнюсе быў анансаваны новы кніжны праект, прысвечаны віленскім адрасам першадрукара. У межах праграмы «Беларусы замежжа» беларуская дыяспара ў Літве атрымала 6 камплектаў кніг (са 127 назваў). Адна з бібліятэчак засталася ў гімназіі імя Францыска Скарыны. 2017 год абвешчаны ў Вільнюсе Годам Францыска Скарыны.***

# АДКРЫЦЦЁ ЗА АДКРЫЦЦЁМ

**Побач з працамі беларускіх аўтараў прыкметнае месца ў скарыназнаўстве займаюць даследаванні навукоўцаў з розных краін: Польшчы, Украіны, Чэхіі, Літвы... Надзвычай важным з'яўляецца і ўнёсак расійскіх даследчыкаў — Пятра Уладзімірава, Яўгена Неміроўскага, Юрыя Лабынцава і многіх іншых.**

Кнігі Францыска Скарыны, агульны тыраж якіх склаў больш за тысячу экзэмпляраў, былі прыкметнай культурнай з'явай для адукаваных людзей эпохі Адраджэння. Пачынаючы з сярэдзіны XVI стагоддзя выданні Скарыны згадваюцца шматлікімі аўтарамі: Сымонам Будным, Мялеціем Сматрыцкім, Шыманам Старавольскім, Андрэем Курбскім, Сільвестрам Мядзведзевым. Гістарычныя абставіны скланіся так, што грунтоўная традыцыя апісання Скарынавых кніг і іх рознабаковага аналізу пачала складацца ў працах расійскіх даследчыкаў другой паловы XVIII стагоддзя.

У 1776 годзе бібліятэкар Санкт-Пецярбургскай бібліятэкі Акадэміі навук Іаган Бакмейстр выдаў кнігу «Опыт о Библиотеке и Кабинете редкостей и истории...», дзе побач з апісаннямі іншых кніг дастаткова падрабязна ахарактарызаваў шэраг выданняў Скарыны. 1783 год адметны публікацыяй артыкулаў Іагана Штрытэра і Пятра Аляксеева, прысвечаных дзейнасці беларускага асветніка. У 1813 годзе бібліятэкар Васіль Сопікаў у працы «Опыт Российской библиографии» падрабязна апісаў «Апостал» і яшчэ 15 кніг Скарынавай Бібліі.

Пра выданні Скарыны пісаў і археограф Канстанцін Калайдовіч. Так, у артыкуле «О белорусском наречии» (1822), дзе ўпершыню ў расійскай навуцы адзначана існаванне самастойнай і старажытнай беларускай мовы, даследчык у пошуку вытокаў беларускай мовы звярнуўся да выданняў беларускага першадрукара. «Древнейший пример изменения чистого языка славянского, принявшего чуждые слова и речения, составившие впоследствии наречие белорусское, находится в переводах доктора Франциска Скорины», — адзначаў у артыкуле расійскі даследчык.

У 1867 годзе археолаг і бібліёграф Аляксей Віктараў — адзін з заснавальнікаў кнігазнаўчага метаду — увёў у навуковы ўжытак сёлетнюю кнігу-юбілярку «Псалтыр» 1517 года. Зрэшты, шматлікія навуковыя адкрыцці былі абагулены і ўдакладнены Пятром Уладзіміравым, які выдаў манаграфію «Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык» (1888). За гэту працу Пётр Уладзіміраў атрымаў ступень доктара рускай славеснасці і з канца 1880-х гадоў стаў прафесарам Кіеўскага ўніверсітэта.

Як пісаў гісторык Уладзімір Пічэта ў 1926 годзе (і паўтараў Яўген Неміроўскі ў 1990-м), «да гэтага часу не з'явілася ніводнага даследавання, якое магло б замяніць гэту работу». Пётр Уладзіміраў шматбакова разгледзеў дзейнасць першадрукара. Ён параўноўваў пераклад Скарыны з іншымі перакладамі Бібліі, а ў раздзеле, прысвечаным біяграфіі, упершыню правёў звесткі, што Скарына быў жанаты і яго жонку звалі Маргарытай.

Даследаванні расійскіх і іншых замежных даследчыкаў дазволілі ў эпоху нацыянальнага адраджэння на пачатку XX стагоддзя абвясціць Скарыну адным з галоўных дзеячаў беларускай культуры. Ужо ў першым томе знакамітай працы Яўхіма Карскага «Беларусы» (1903) быў змешчаны грунтоўны артыкул пра беларускага асветніка.

Сярод расійскіх даследчыкаў XX стагоддзя вылучаюцца імёны Яўгена Неміроўскага і Юрыя Лабынцава. Яўген Неміроўскі спецыялізаваўся на вывучэнні кніжнай культуры Польшчы, Расіі, Украіны, Вялікага Княства Літоўскага, ён аўтар грунтоўнай манаграфіі «Франциск Скорина. Жизнь и деятельность белорусского просветителя» (1990), суаўтар кнігі «Францыск Скарына: Зборнікі дакументаў і матэрыялаў» (1988). На працягу 25 гадоў Яўген Неміроўскі збіраў звесткі пра экзэмпляры выданняў Скарыны, імкнуўся патрымаць іх у руках, каб апісаць de visu. Так з'явіўся каталог скарынаўскіх выданняў, дзе згадваюцца і экзэмпляры, якія зніклі з поля зроку даследчыкаў.

Літаратуразнаўца Юрый Лабынцаў у кнізе «Пачатае Скарынам. Беларуская друкаваная літаратура эпохі Рэнесансу» (1990) распавёў пра невядомых беларускіх літаратараў Скарынавай эпохі, засведчыў значную ролю беларускай друкаванай літаратуры XVI стагоддзя сярод літаратур еўрапейскіх краін, звярнуўся да праблем міжславянскіх літаратурных дачыненняў.



Калаж Алесі Ісы.

*Кнігі Францыска Скарыны, агульны тыраж якіх склаў больш за тысячу экзэмпляраў, былі прыкметнай культурнай з'явай для адукаваных людзей эпохі Адраджэння. Пачынаючы з сярэдзіны XVI стагоддзя выданні Скарыны згадваюцца шматлікімі аўтарамі: Сымонам Будным, Мялеціем Сматрыцкім, Шыманам Старавольскім, Андрэем Курбскім, Сільвестрам Мядзведзевым.*

Нельга не згадаць і расійскага гісторыка-славіста Анатоля Турылава, які выявіў знакаміты акраверш Францыска Скарыны, і літаратуразнаўцу, гісторыка Аляксея Каўку, аўтара некалькіх выданняў, прысвечаных дзейнасці асветніка і беларускаму нацыянальнаму адраджэнню.

Цікавасць да асобы Францыска Скарыны і сёння аб'ядноўвае даследчыкаў розных спецыялізацый, якія працуюць у розных краінах, што сведчыць пра значнасць Скарынавай працы для еўрапейскай культуры.

**Янка НАТАВЕЦ**

**ДАТАпіс: Полацк**

***У Полацку, на Радзіме кнігадрукара, кожная восень пачынаецца скарынаўскімі днямі, у праграме якіх скарынаўская алімпіяда, краязнаўчыя квэсты і інтэрнэт-віктарыны. Сустрэць Скарыну ў Полацку можна не толькі ў верасні: на сёлетнюю ноч музеяў беларускі першадрукар зазірнуў у Музей беларускага кнігадрукавання, дзе фатаграфаваўся з наведвальнікамі і задаваў пытанні пра гісторыю роднага горада.***

***Каб узгадаць вядомага асветніка, у Полацк штогод з'язджаюцца гісторыкі, кнігазнаўцы, бібліятэкары. Так, сёлета, 24 — 25 мая, у горадзе на Дзвіне прайшла IV Міжнародная навуковая канферэнцыя «Беркаўскія чытанні. Кніжная культура ў кантэксце міжнародных кантактаў: да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання» (пад эгідай Міжнароднай асацыяцыі акадэмій навук). Падчас канферэнцыі была адкрыта выстаўка «"Біблії Рускай" Францыска Скарыны — 500», падрыхтаваная Бібліятэкай імя Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук.***

# «Нам ёсць што сказаць свету»



**Аляксей Чарота, галоўны рэдактар часопіса «Нёман»:**

— Нягледзячы на тое, што з імем Францыска Скарыны звязана больш загадак, чым дакладных фактаў, думаю, не знойдзецца чалавека, які б мог аспрэчыць яго выключную ролю ў развіцці беларускай культуры, той уплыў, які першадрукар зрабіў на кніжнае пісьменства, беларускае і ўсходнеславянскае кнігадрукаванне. І, канечне ж, на развіццё стасункаў паміж рознымі народамі і культурамі. Пра гэта сведчаць нават тыя нешматлікія біяграфічныя звесткі, якія мы маем. Яшчэ ў 1988 годзе Адам Мальдзіс прысвяціў гэтаму аспекту дзейнасці нашага першадрукара вялікую працу «Францыск Скарына як прыхільнік збліжэння і ўзаемаразумення людзей і народаў».

Ніякая літаратура і нават мова не могуць існаваць адасоблена, яны павінны пастаянна падпітвацца і ўзбагачацца за кошт дасягненняў іншых народаў, толькі пры такой умове ў нацыянальнага прыгожага пісьменства ёсць будучыня. Сучасная літаратура Беларусі — гэта вынік творчасці не толькі нашых пісьменнікаў, але і ўплыву літаратуры сусветнай, што асабліва заўважна апошнім часам. Нашы маладыя літаратары ўсё часцей імкнуцца браць за ўзор еўрапейскую літаратуру, часта адмаўляючыся ад набыткаў айчыннай, лічачы яе цікавай толькі беларусам. Аднак нам ёсць што сказаць свету, мы ў стане ўзбагаціць не толькі сваю, але і сусветную культуру. Узяць тых жа Васіля Быкава ці Святлану Алексіевіч, якая стала лаўрэатам Нобелеўскай прэміі. Пра іх творчасць ні ў якім разе нельга сказаць, што яна адарваная ад нашай зямлі, наадварот, творы гэтых пісьменнікаў грунтуюцца на ёй. Літаратура, ды і культура наогул, — гэта сінтэз дасягненняў нацыянальных і сусветных. Скарына разумеў гэта ў шаснаццатым стагоддзі, разумеем і мы. Таму ў Выдавецкім доме «Звязда» з'явіўся кніжны праект «Сугучча сэрцаў», выходзіць серыя «Светлыя знакі. Паэты Кітая», на нашым сайце працуе інтэрнэт-праект «Сугучча: літаратура і публіцыстыка краін Садружнасці», у часопісе «Нёман» існуе рубрыка «Всемирная литература в "Нёмане"», усе нашы перыядычныя літаратурныя выданні ў кожным нумары друкуюць творы замежных пісьменнікаў, перакладзеныя на беларускую мову.

# ДЫПЛАМАТЫЯ СЛОВА

**5 чэрвеня 2017 года ў Маскве, у Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі, пройдзе круглы стол «Дыпламатыя слова: 500-годдзе беларускага кнігадрукавання ў кантэксце сусветнай культуры». Арганізатары — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Саюз пісьменнікаў Беларусі, Выдавецкі дом «Звязда» пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі.**
**У пярэдадзень круглага стала мы звярнуліся да прадстаўнікоў розных краін з просьбай даць ацэнку сённяшняму стану гуманітарных, культурных стасункаў у прасторы Садружнасці Незалежных Дзяржаў. І вось што яны адказалі на пытанні газеты «Літаратура і мастацтва». Спадзяёмся, некаторыя іх думкі будуць якраз і агучаны на маскоўскай сустрэчы.**



**Святлана Ананьева, літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук (Казахстан):**

— У нашых беларуска-казахскіх літаратурных, а значыць культурных, гуманітарных стасунках адбылася радасная падзея: вядомаму беларускаму паэту Міколу Мятліцкаму, які доўгі час рэдагаваў часопіс «Полымя», прысуджана міжнародная прэмія «Алаш». Гэтая прэмія — знак удзячнасці беларускаму сябру за пераклад кнігі вершаў Абая «Стэпавы прастор», якая выйшла ў Мінску. За гэтым фактам — вялікая работа, якая ў апошняе дзесяцігоддзе скіравана на тое, каб нашы нацыянальныя літаратуры былі знаёмыя чытачам розных краін. Мяне па-добраму здзіўляе руплівасць калег з Выдавецкага дома «Звязда» — Аляксея Чароты, Юліі Алейчанка, Алены Мальчэўскай, Анатоля Мацвіенкі, Алега Ждана, — якія шмат робяць, каб казахская літаратура прысутнічала ў полі зроку беларусаў. Гэта заўважна і на партале «Сугучча», дзе казахскаму мастацкаму слову адведзена ажно некалькі старонак. Вось іх назвы: «Літаратурны Казахстан», «Немат Келімбетаў», «Абай крочыць па планеце», «Свет Мухтара Аўэзава»… І, што характэрна, старонкі гэтыя напаўняюцца тэкстамі на розных мовах: рускай, казахскай, беларускай, англійскай, нямецкай ды іншых. Такія памкненні радуюць. Можна толькі здагадвацца, філасофія якой моцы ўкладзена ў стратэгію партала «Сугучча: літаратура і публіцыстыка краін Садружнасці». Зазірніце, упэўнена: знойдзеце даволі шырокую карціну развіцця нацыянальных літаратур на прасторах СНД, ды і ўвогуле ў свеце.



**Чынгіз Алі аглу, паэт, перакладчык, заслужаны дзеяч мастацтваў Азербайджана (Азербайджан):**

— Часта бываю ў Беларусі і, паверце, дзіву даюся, што беларусам, беларускім пісьменнікам ёсць справа да ўсяго свету, да нацыянальных літаратур розных краін. Мне імпануе і тое, што сёння вельмі сур'ёзна развіваюцца беларуска-азербайджанскія літаратурныя, культурныя сувязі. У Баку на азербайджанскай мове выдаюцца кнігі беларускіх аўтараў. Вось зараз завершана праца над перакладам кніг Алеся Бадака, Мікалая Чаргінца. Нядаўна выйшла кніга празаіка Анатоля Мацвіенкі. Шмат робіць па прапагандзе беларускай літаратуры ў Азербайджане празаік і перакладчык Камран Назірлі. Ён, дарэчы, пераклаў на азербайджанскую і аповесць Святланы Алексіевіч «У вайны не жаночы твар». Не адстае ад яго таленавітая дзіцячая пісьменніца Севіндж Нурукызы. Падводжу да тае думкі, што мастацкі пераклад значыць вельмі шмат. Невыпадкова, што ў нашай краіне пры ўрадзе створаны Цэнтр перакладу.



**Валерый Казакоў, празаік, паэт, кандыдат сацыялагічных навук (Масква, Расійская Федэрацыя):**

— Жыву на дзве краіны. Жыву так з увагі на тое, што шчыра прывязаны да Расіі і неймаверна люблю родную старонку, беларускі дом. Дзякуй беларусам, якія падтрымліваюць мяне, друкуюць на старонках часопісаў, у выдавецтвах мае творы. Міжнародныя гуманітарныя стасункі — тэма вялікая. Умацоўваць міжнародныя гуманітарныя стасункі — справа высакародная, важная з розных пунктаў гледжання. Чаго нестае ў гэтай справе?.. Звяртаюся да палітыкаў: стаўцеся да гуманітарнага камунікату не меней адказна, чым да эканомікі. І ваша стаўленне да гэтага як да самай сур'ёзнай справы ў клопатах за ўсталяванне міру дасць дзейсны плён.



**Сяргей Кандыбовіч, доктар псіхалагічных навук, старшыня ФНКА «Беларусы Расіі» (Масква, Расійская Федэрацыя):**

— Уважліва сачу за багатай працай па прадстаўленні ў Беларусі іншых літаратур, найперш літаратур народаў Расіі, рускай літаратуры на беларускай мове. І радуюся, што беларусы ўмеюць вылучаць свае ініцыятывы для будаўніцтва, для стваральнай працы. Заклікаю да партнёрства з Беларуссю ва ўсталяванні трывалых міжнародных мастоў у галіне гуманітарнага супрацоўніцтва. Парадавала ініцыятыва Выдавецкага дома «Звязда», які адкрыў кніжную серыю «Сябрына: паэзія народаў Расіі», выдаўшы па-беларуску кнігу вершаў народнага пісьменніка Удмурцііі Вячаслава Ар-Сяргі «Ранішні вецер у акне». Перакладчык — цікавы беларускі паэт Віктар Гардзей. Вось бы займець гэтай серыі фундатара ў Расіі! Паверце: адразу б ажывіліся і самі нацыянальныя літаратуры Расіі, бо зразумелі б, што іх бачаць, што сябрына іх шырыцца.

Вельмі важна сёння не забыцца на адрасы, якія нас яднаюць. У ФНКА «Беларусы Расіі» мы вітаем любую ініцыятыву па мемарыялізацыі мясцін, звязаных з жыццём і творчасцю беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, навукоўцаў, якія працавалі ў Расіі. Мяркую, што ў такой канкрэтнай працы вялікае выхаваўчае значэнне для ўсяго грамадства.



**Рыма Ханінава, літаратуразнаўца, паэт, перакладчык (Эліста, Расійская Федэрацыя):**

— Для мяне размова пра дыпламатыю слова — гэта размова пра канкрэтныя справы, якімі і я актыўна займаюся. Нядаўна ўдзельнічала ў Мінску ў міжнародным сімпозіуме «Пісьменнік і час». І калі выступала, дзялілася ўражаннямі ад першага знаёмства з Беларуссю. Да пачатку сімпозіума пабывала ў мінскіх літаратурных музеях, наведала мясціны, дзе ў час Вялікай Айчыннай вайны партызаніў мой бацька, калмыцкі паэт Міхаіл Хонінаў. За сваю «партызанку» ён атрымаў ордэн Чырвонага Сцяга. І гэтыя сустрэчы пацвердзілі адну ісціну, якая ў розных народаў выкладаецца рознымі словамі, але сэнс мае адзін: там, дзе дзверы адчынены з душой, дзе госця вітаюць з дабром, справы ладзяцца. Так і ў беларуска-калмыцкіх літаратурных стасунках: ніякая эканамічная сітуацыя, ніякая адсутнасць грошай не становяцца перашкодамі. Вось і зусім нядаўна ў часопісе «Полымя» надрукаваны пераклад на беларускую мову паэмы Міхаіла Хонінава «Званы Хатыні». Напісаны некалькі дзесяцігоддзяў таму твор захапіў увагу маладых беларускіх паэтаў Адама Шостака і Рагнеда Малахоўскага. Дзякуй ім за гэта!



**Роберт Мінулін, народны паэт Татарстана (Казань, Расійская Федэрацыя):**

— Пераклаўшы на татарскую мову неўміручыя радкі Максіма Багдановіча, Францыска Скарыны, я расчуліўся і напісаў верш пра Францыска Скарыну. Напісаў яго не толькі, каб ушанаваць легендарнага беларускага першадрукара, асветніка, гуманіста, а яшчэ і дзеля таго, каб даць магчымасць свайму татарскаму чытачу ведаць пра яшчэ аднаго праведніка духоўнасці, каб дадаць разумення моцы мастацкага слова нашым сучаснікам, каб яны пазналі праведніка, які змагаўся за ўсталяванне ў сваім часе гуманістычных, жыццядайных ідэалаў.



**Касым Нурбадаў, паэт, перакладчык (Ашгабат, Туркменістан):**

— Некаторы час назад у Мінску выйшла мая кніга дзіцячых вершаў і апавяданняў на беларускай мове. Ужо дома не так часта выдаюцца кнігі, а тут у іншай рэспубліцы, у іншай краіне… Вось падзея!.. Дзякуй беларускім сябрам! Але мяне вось што яшчэ ўразіла. Кніга выйшла ў выдавецкай серыі «Сяброўства без межаў». Само існаванне такой серыі, адрасаванай юным чытачам Беларусі, — з'ява высокага гучання. Успомніце: некалі быў такі рух — Клубы інтэрнацыянальнай дружбы. Дык вось, узвышаючы сваё, нацыянальнае, нам варта было б менавіта праз літаратуру дапамагчы чытачам розных краін, розных нацыянальнасцей не даць забыцца пра дружбу народаў, пра інтэрнацыяналізм. І, канечне, гэта магчыма тады, калі мы, пісьменнікі, будзем кіравацца клопатамі распаўсюды пра вялікіх папярэднікаў, пра зробленае імі.



**Муртазо Зайніддзінаў, літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук (Душанбэ, Таджыкістан):**

— Гэта вельмі цікава, што ў Маскве ладзіцца круглы стол, які ўздымае традыцыі беларускага кнігадрукавання ў лучнасці з усім светам. Таджыкі багатыя на гісторыю мастацкага слова. І калі б у нас адбылася такая вось беларуска-таджыкская размова, то, несумненна, мы б шмат чым падзяліліся ў плане інфармацыйным. Мне асабіста імпануюць памкненні паяднання культур, клопаты, звязаныя з мастацкім перакладам, далучэннем да чужаземных нацыянальных літаратур усё большай колькасці чытачоў. Гэта яднае, дапамагае пашыраць уяўленні розных народаў адзін аб адным. У сваім універсітэце я чытаю спецкурс па літаратурах постсавецкіх краін. Напісаў і адпаведны падручнік. З дакладам пра вывучэнне беларускай літаратуры, пра беларуска-таджыкскія літаратурныя сувязі выступаў на міжнародным сімпозіуме літаратараў у Мінску «Пісьменнік і час» у лютым гэтага года. Думаю, што стасункі паміж нацыянальнымі літаратурамі і культурамі будуць трывалымі тады, калі мы будзем укладваць свае сілы ў даследчыцкую, літаратуразнаўчую, гісторыка-літаратурную працу. Не след забывацца пра традыцыі. За намі — багаты досвед папярэднікаў, і нельга яго не ўлічваць.

**Запісаў Сяргей ШЫЧКО**

**ДАТАпіс: Масква**

***Данінай памяці і павагі сапраўднаму «чалавеку эпохі Адраджэння» — медыку, філосафу, навукоўцу, багаслову, асветніку, усходнеславянскаму друкару Францыску Скарыну — стала выстаўка ў Блакітнай зале Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі. Яе прысвяцілі 500-годдзю юбілею выдання кніг славянскай Бібліі. Збор кніг Скарыны ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы — адзін з самых багатых у свеце. Аснову экспазіцыі склалі кнігі Старога Запавету, надрукаваныя Францыскам Скарынам у Празе ў 1517 — 1519 гадах.***

**Салім БАБУЛЛААГЛУ**

## Прысвячэнне сэрцабіццю

(без знакаў прыпынку)

*Ну канечне канечне канечне той дзень*
*так найлепшы той дзень*
*найцудоўнейшы дзень*
*ён яшчэ не прыйшоў ён яшчэ не прыйшоў*
*але ўсё-ткі аднойчы ён мусіць прыйсці*
*вось тады мае беды закончацца ўсе*
*вось тады твае вусны ўсміхнуцца і мне*
*будзе лёгка сустрэць дзень апошні ў жыцці*
*бо сярод маіх дзён маіх доўгіх гадзін*
*быў вось гэты адзін самы лепшы адзін…*

## Бацьку

*Ты прыгожы, а я*
*да знешнасці абыякавы…*
*Спагадлівы ты, а я*
*мантач, хвалько і гуляка…*

*Нешчаслівы крыху — і ты не знайшоў спакою.*
*Паўтараю сабе: «Стаміўся — жыццё такое…»*
*Далёка жыву, вялікі і гучны горад*
*дні мае замяняе на грэх, на тугу і голад…*
*Гляджу на твой здымак шторанак, а ўвечар —*
*на тое, што ў люстры жыве, і*
*вось так старэю, сівею…*

*Ты шмат што знайшоў і многае — не згубіў.*
*А я і пра тое, хто я, паспеў забыць,*
*не страціў хіба імя,*
*кватэру і кнігі…*
*Я быў кепскі сын, а ты добры бацька — німба*
*над галавой не маю, ды знаю сам я,*
*будзеш ты дзедам найлепшым,*
*і я — таксама…*

***

*Калі вырашыў я пісаць толькі вялікія творы,*
*ніякіх кароткіх формаў…*
*На падаконнік мой птушанятка села,*
*не змясцілася ні ў раман, ні ў паэму —*
*і паляцела…*

**Вагіф БЕХМЕНЛІ**

## Чалавечаю мовай

*Вершы мусяць быць зразумелыя —*
*таму, хто заснуў,*
*таму, хто прачнуўся,*
*таму, хто тоне,*
*яблыку і міндалю,*
*эпосе і часу…*
*Вершы мусяць быць зразумелыя —*
*маці, бацьку*
*і чалавеку!..*

## Не падымаецца рука

*Я таксама хачу, як усе,*
*перайначыць сябе,*
*паверыць,*
*але што рабіць,*
*як узняць руку,*
*каб парваць,*
*каб спаліць*
*уласныя*
*вершы!..*

## Кашуля са слова

*Праца мацуе працу,*
*фабрыкаў шмат на свеце.*
*А хто ж ёсць паэт, вы адкажаце, дзеці?*
*Паэт — гэта галоўны*
*цэх пашывачны, што ўсім голым і босым*
*шые кашулі са слова,*
*дзівосныя.*

## Шчасце

*Далібог, шчаслівыя*
*тыя, хто могуць плакаць,*
*а яшчэ паэты,*
*бо, папраўдзе, слёзы*
*робяць бязважкім сэрца,*
*лёгкім, як птушка,*
*лёгкім, як вершы,*
*што з сэрца гэтага*
*вылятаюць…*

**З азербайджанскай.**
**Пераклад Таццяны СІВЕЦ**

**Ганна ХОДЖЭР**

## Жаніх-ааян

*— Гэй, Мэргэкэн, ты куды ў гэту рань?*
*Строі дык строі — ці падай, ці ўстань.*
*— Што, і не бачыш ты, вырас як я?*
*Стаў жаніхом-ааян!*

*— Гэй, Мэргэкэн, мо ёсць лодка-агда?*
*Лыжы, каб следу не пакідаць?*
*— З носа ў той лодцы кармы не відаць.*
*Лыжы ў разоў даўжэй пяць.*



*— Не, Мэргэкэн, без рыштунку ніяк!*
*Хто ж ты без стрэл сваіх, лука, кап'я?!*
*— Я і без іх добра звера лаўлю —*
*Тыгра любога звалю!*

*— У лесе не быў бяззбройным твой дзед…*
*Ведаеш нейкі новы сакрэт?*
*— Чым не кап'ё мой пудовы кулак?*
*Хіба не так?*

*Шчэ пакажу табе сілу сваю —*
*Лоб хоць каму разаб'ю!*

*Ну і зайздросны жаніх-ааян!*
*Ды крывабокая праўда твая.*

*Так, ааян?*

## Пакланенне прыродзе

*Па сопках ходзім безыменных,*
*Па косах мо праляжа шлях,*
*Мы да вытоку пакаленняў*
*Ідзём — і вось яна, зямля.*

*Ці цягнем лодку ў ціхі час —*
*Адвеку ёсць Прырода ў нас.*

*Тайга багатая, без краю,*
*І з птушкамі ручай пяе.*
*Крынічка ў такт ім паўтарае,*
*Касуля кроку дадае.*

*А вось жэньшэнь у гушчары —*
*Агмень прыроды ў нас гарыць.*

*Святлом вясёлкавых пялёсткаў*
*Палае кветка ў вышыні.*
*Лістота зіхаціць, бы ў блёстках,*
*Ад лёгкай ветрыку гульні.*

**З нанайскай.**
**Пераклад Яны ЯВІЧ**

**Эрдні ЭЛЬДЫШАЎ**

***

*Калі нада мною навіснуць*
*Жахлівыя чорныя хмары*
*І думкі, як вобручы, сціснуць,*
*Сумненне душой заўладарыць;*

*Калі я над прорваю стану*
*І жыць палічу — упустую,*
*Прыціснуты лёсам паганым,*
*Сябрук! Твой пагляд я адчую.*

*Цябе я заўважу раптоўна*
*Над бездання лютаю тою,*
*Руку падасі ты ратоўна,*
*Супыніш сваёй дабратою.*

*Сябрук! На цябе ўся надзея.*
*Ты сэрцам гарачым сваім*
*Мяне ў дзікі холад сагрэеш,*
*І словам — адзіна-адным! —*

*Мяне падтрымаеш, суцешыш…*
*Жыву я любоўю тваёй.*
*І ведаю: покуль мне верыш,*
*Я спраўлюся з горкай бядой!*

## Белыя дарогі

*Белыя дарогі*
*Пачынаюцца*
*Ад майго радзімага парога,*
*Мне сябры ў дарозе*
*Напаткаюцца,*
*Болей і не трэба анічога.*

*Тое, што не бачыў*
*Аніколі я,*
*Тое, што не чуў*
*За шлях жыццёвы свой,*
*Будзе мне*
*Дарогай дальняю*
*Падорана —*
*Крочу я*
*Упэўнена па ёй.*

*Светлых стрэч,*
*Дарогай*
*Абяцаных мне,*
*Я чакаю*
*З радасцю заўжды,*
*Да сяброў,*
*Якія найжаданыя,*
*Не спыняю*
*Шчырае хады.*

*Ах, дарогі,*
*Белыя дарогі!*
*Абяцайце шчасце —*
*Не бяду.*
*Я ў дарозе,*
*Покуль ходзяць ногі.*
*І жыву,*
*пакуль я ўдаль іду.*

**З калмыцкай.**
**Пераклад Міхася ПАЗНЯКОВА**

**Суеркул ТУРГУНБАЕЎ**

## Гучанне музыкі

*На самую вышэзную скалу*
*Натхненнем я падняты быў імгненна*
*І, быццам вершнік, на усім бягу*
*Раптоўна схамянуўся, святлом белым*

*Уражаны, гляджу я ў далеч даляў,*
*О, колькі лёсаў над маёй зямлёю!*
*О, гукі неба тут сціхаюць,*
*І з новай сілай гром грыміць вясновы.*

*Знаёмыя чую тоны,*
*І тэмбры, і рытмы, фактуры, —*
*То лепшы Жыццёвы момант,*
*З Жыццём мы зліліся ў тэкстуры*

*Святла, пераліваў вясновых і ветру,*
*Вясёлкавых ветразей ззяння.*
*І думак юнацкім шчэ метрам*
*Музыкі крочыць гучанне…*

*Паланёны я «Іспанскім балеро» —*
*Музыкі бясконцасцю у часе,*
*Сілай духу, што, нібы герой*
*Антычнасці, ніколі не пагасне.*

*О, балеро: мае любоў і боль,*
*О, музыка Равэля — проста казка!*
*Ты — маці! Ты вядзі мяне з сабой,*
*Каб для слугі Айчыны быць падказкай.*

*Прасветлены. І кроў мая бруіць.*
*І ува мне смяецца-б'ецца сэрца…*
*Ці ж доўга хвалі застаецца жыць,*
*Калі яна пад Сонцам застаецца?*

*Няхай растопяць мяне ўсе агні*
*Пякучай прагай. А палоннае маўчанне*
*Парвецца у адзін цудоўны міг,*
*О, Музыка Сусвету, ты — маё каханне!*

## У халодны дзень

*Удары па там-тамах,*
*прыемны голас падпявае яму.*
*Кранула мяне*
*дзікая адна, гарачая песня.*

*Ён у пачуцці ўнёс*
*спякоту Афрыкі,*
*я за гукамі следам спяваў,*
*утаропіўся, глядзеў, назіраў.*

*Чорная «Спідола»*
*ў руцэ джыгіта.*
*Весела песня гучыць,*
*разносячыся па горадзе.*

*Разам з песняй, здаецца, прайшла*
*побач са мною гарачая краіна,*
*адчуўшы яе моцны жар,*
*я яшчэ доўга быў у цяпле.*

## Аднаму знаёмаму

*Ты жыў,*
*нікога не шануючы,*
*Задаваўся,*
*нікога не раўняючы з сабою.*
*Раптам*
*цябе паваліў на зямлю,*
*Сустрэўшыся*
*на шляху тваім, адважнік.*
*Выбіў*
*з сядла, скінуўшы з каня.*
*Ударыў аб зямлю*
*цябе, самазадаволенага знакамітасцю,*
*Імгненна выбілі з цябе пыл,*
*астыла пыха,*
*Маланка над ілбом*
*тваім бліснула.*
*Калі сябе ты лічыш смелым,*
*ведай, што леў знойдзецца і на цябе,*
*Не задзірай жа дзюбу, як кулік,*
*калі няма арла.*
*Напэўна, гэтыя высновы*
*павылятаталі з тваёй галавы.*
*Бачыш зараз*
*кошт расплаты!*
*З гэтага*
*вынікае:*
*Будзь асцярожны,*
*заспакой сябе,*
*калі раз'юшаны,*
*Вочы адкрый шырэй,*
*Калі ты*
*сустракаеш*
*чалавека.*

**З кіргізскай.**
**Пераклад Адама ШОСТАКА**

**ДАТАпіс: Алматы**

**Кніга «Францыск Скарына — чалавек свету» выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі» вызначана пераможцам у намінацыі «За паліграфічнае выданне» на IX Міжнароднай кніжнай і паліграфічнай выстаўцы «Па Вялікім шаўковым шляху» ў Казахстане. У 2017 годзе ў ёй узялі ўдзел выдавецтвы, паліграфічныя прадпрыемствы, бібліятэкі Казахстана, Расіі, Беларусі, Кыргызстана, Турцыі ды іншых краін.**

# ВОБЮЛІМАНС*

*Урыўкі з эпісталярнага рамана пра каханне Максіма Багдановіча, заснаванага на вершах паэта, успамінах родных і блізкіх, даследаваннях навукоўцаў*



Уладзімір НАВУМОВІЧ

## Частка 1

### Ліст 5. Яраслаўскі ўзлёт

**Дарагая А.!**

«Ляцець стралою князя Ігара…» Як мяне ўзрадавалі гэтыя словы! Вы памятаеце, вы, несумненна, памятаеце, што менавіта ў нас, у Яраслаўлі, быў знойдзены Мусіным-Пушкіным тэкст «Слова пра паход Ігаравы». Тэкст «Слова…» знаходзіўся ў зборніку старадрукаў арыгінальных і перакладных. Зборнік ён набыў з дапамогай свайго камісіянера разам з мноствам іншых летапісаў у былога архімандрыта ўжо тады закрытага Спаса-Яраслаўскага манастыра Іаіля Быкоўскага. Апроч «Слова…» ў зборнік уваходзілі «Хранограф», летапіс пад назвай «Временник, еже нарицается летописание русских князей и земля Русская», «Сказание об Индийском царстве», «Повесть об Акире Премудром» і «Довгениево деяние». Першае кароткае паведамленне пра «Слова…» зрабіў слынны паэт свайго часу Міхаіл Хераскаў у 1797 г. у другім выданні сваёй паэмы «Уладзімір».

Вашы словы мяне так натхнілі, што ў гэтыя дні я зрабіў шраг перакладаў на беларускую мову: Авідзія, Гарацыя, Поля Верлена…

Слова пра паход Ігаравы. Не забудземся мы, што менавіта са «Слова пра паход Ігаравы» пачынаецца гісторыя беларускай пісьменнасці. Літаратура Кіеўскай Русі — калыска трох братніх літаратур — рускай, украінскай, беларускай — найлепшым чынам суадносіцца са «Словам». Як калісьці ўмазвалі велізарныя камені ад старадаўніх разваленых муроў у пазнейшыя будоўлі, так з цёмных глыбін народнай творчасці тут, у «Слове…», ішло абавязковае і непазбежнае «ўсасванне» беларускіх народных слоў і зваротаў, якія станавіліся каранямі беларускай пісьменнасці, заснаванай на тлустым падглебʼі — народных гаворках. Гэта былі каштоўныя камяні-самародкі, устаўленыя ў аправу «Слова»: у выніку народныя гаворкі зʼявіліся асновай беларуская прыгожага пісьменства.

Яраслаўль… Мае першыя вершы напісаны тут, пераклады на беларускую мову з сусветнай класікі ажыццёўлены тут, нарэшце, зборнік «Вянок» я ўпершыню трымаў у руках менавіта тут. Мой узлёт душэўны і паэтычны дзякуючы вялікаму каханню.

*Апантаны, няўрымслівы Максім Крыніца*
*Яраслаўль, 1913 год*

**Шаноўная А.!**

Паэзія ў Верлена — музыка, музыка, музыка перш за ўсё, у Пушкіна — паэзія пачуцця, намёку. Толькі жабракі могуць праз усё жыццё браць. Трэба ж і нам даць нешта сваё. Маё шчырае жаданне як найхутчэй дачакацца найвышэйшага, арыгінальнага, што б магло з гонарам прадстаўляць беларускі народ на форуме сусветнай паэзіі. Шчырага Бог любіць, але долі не дае. Шукаць «чыста» беларускія вершы і песні трэба, гэта абавязак наш перад народам, шукаць настойліва, усім сэрцам і ўсімі сіламі трымаючыся народнай песні, як сляпы трымаецца плота. У маім сэрцы з гэтай пары пасялілася, жыве, прытаілася перапёлачка. Дагадайся: хто яна? Зберагу і захаваю мелодыю.

*Твой сардэчны сябра Максім Крыніца.*

**У рэдакцыю «Маладой Беларусі»**

Пасылаю 3 пераклады з Верлена, а раней паслаў стацейку аб санеце і 2 вершы і прасіў «Нашу ніву» надаслаць да Вас каля паўдзюжыны маіх вершаў. Ці атрымалі?

Яшчэ вось што: ёсць у мяне пераклады з Гарацыя і Авідзія. Можа, пасляць да Вас? Альбо першую песню адной маёй няскончанай яшчэ паэмы; у гэтай песні строк каля 150, і друкаваць яе можна было як нешта больш-менш цэльнае і незалежнае…

Чакаючы адказу, астаюся Вашым слугой.

*М. Багдановіч.*

**P. S.** Адрас мой: *Ярославль, Воздвиженская, д. 18, кв. 3, Максиму Адамовичу Богдановичу.*

Працяг. Пачатак у № 21.

**Адам Ягоравіч Багдановіч — даследчыцы творчасці і біёграфу Максіма Багдановіча Ніне Барысаўне Ватацы**

<…> Калі мне давялося пераехаць на новае месца працы з Ніжняга Ноўгарада ў Яраслаўль, дык і дзеці паехалі разам.

Пры пераводзе па службе з горада ў горад дзеці звычайна прымаліся ў адпаведныя школы. Дырэктар Яраслаўскай гімназіі М. А. Вярыгін сказаў, што месца для іх знойдзецца. Але калі атрымаў водзыў пра іх з Ніжагародскай гімназіі (гэтага водзыва я, на жаль, не знайшоў ні ў Яраслаўлі, ні ў Ніжнім), дык у перамяшчэнні маіх дзяцей было адмоўлена. Я быў вымушаны адправіць Максіма і Лёву назад у Ніжні пад апякунства іх цётак… Нарэшце перавод адбыўся. Нямала прычыніла мае хлопцы дырэктару непрыемнасцей. Максім анархіст. Дырэктар дакараў мяне: «Ён усё бегае з класа ў клас, мітусіцца, агітуе, — ён тут бунт наладжвае, але я такога не дазволю! Гэта яму не Ніжагародская гімназія!» Толькі Максім адкрыў рот: «Дазвольце, пан дырэктар, мы прыйшлі заявіць…» Хацелі паскардзіцца на грубыя адносіны выкладчыка Спаскага да вучняў, дык дырэктар затупаў порстка нагамі, як стаеннік: «Ні слова!» Пасля гэтага мяне выклікалі для тлумачэння. І толькі настаўнік Мізінаў зрабіў так, што справа не мела ніякіх вынікаў ні для Максіма, ні для яго таварышаў. Потым яшчэ малодшы сын Лёва праявіў такія выдатныя здольнасці па матэматыцы, што ўсе замоўклі як вады ў рот набраўшы. Спаскі хутка зволіўся з працы. А тут яшчэ сам Максім стаў вядомым і любімым у гімназіі дзякуючы свайму паэтычнаму таленту, скарыў і сяброў, і выкладчыкаў, і дырэктара Вярыгіна, які не хацеў прымаць маіх сыноў на вучобу. Максім жа, як і раней, вельмі мала цікавіўся ўрокамі, займаўся самастойна і, несумненна, галоўным чынам беларусазнаўствам, якое абсалютна не мела ніякага дачынення да яго класных заняткаў, што, хутчэй за ўсё, перашкаджала ягоным поспехам, чым садзейнічала.

*Ваш Адам Ягоравіч Багдановіч.*

### Ліст 6. Пралеска

**Беларускі драматург Васіль Гарбацэвіч — Ніне Барысаўне Ватацы**

<…> Наш Мінскі настаўніцкі інстытут у выніку эвакуацыі апынуўся ў вялікім горадзе на Волзе — Яраслаўлі. Аднойчы прыйшлі мы, беларусы, абедаць у студэнцкую сталовую. Нашу ўвагу прыцягнуў малады чалавек у форме ліцэіста, які пазіраў у акно, глыбока запусціўшы пальцы у пышныя валасы. Калі да яго даляцела беларуская гаворка, ён рэзка павярнуўся ў наш бок, потым падбег да стала. Вочы яго загарэліся.

— Адкуль вы?

Мы адказалі. Колькі ў яго было радасці, узрушаны! Ён літаральна засыпаў нас пытаннямі: «Ці прыляцелі ўжо ў нас гракі?» (быў пачатак вясны), «А дзе сабе гнёзды віюць буслы?», «Які на смак бярозавік?», «Якія першыя кветкі на Беларусі?» і інш. Ён (Максім Багдановіч) вельмі захапіўся словам «пралеска». Усё шаптаў яго, а потым нечакана запытаў: «Яна блакітная?»

— А чым Вам так падабаецца гэты колер? — запытаўся я (Васіль Гарбацэвіч. — **У. Н.**).

— Інакш быць не можа, бо чыстаму блакітнаму небу зямля павінна нарадзіць адпаведны падарунак, — натхнёна патлумачыў ліцэіст…

Дарагая, сардэчная, цёплая, ласкавая мая А.! Вы — мая пралеска. У Вашых вачах — блакіт і золата дня, глыбіня і просінь веснавога неба. Гляжу на маю пралеску і бачу нас поруч, людзей, якія ідуць па жыцці разам з мілай, ласкавай усмешкай. Які цуд! У маёй роднай Беларусі вось такой жа цудоўнай вясной, зыркім сонечным днём, па аксамітавым кваціcтым дыване ў пралескавым лесе мы крочым поруч, рука ў руцэ. Крок за крокам.

*Яраслаўль, 1916 год.*
*Сябра Вашых гімназічных братоў Мікалая і Рафаіла, з радасцю адчування любові і ласкі да мілай А., з удзячнасцю сёння ўжо Твой-Ваш Максім Крыніца.*

### Ліст 7. Люстра маёй душы

**Са слаўнымі нерастрачанымі пачуццямі да маёй А.!**

Сённяшнім днём не ішоў — бег, спяшаўся, баючыся, што не паўторыцца тая лёсавызначальная хвіліна нашай стрэчы — сам-насам, — што спазнюся, нібыта на нейкі цягнік, які ідзе ў краіну нашых мараў, у краіну шчасця, ляцеў на крылах, якія Вы мне падарылі сваёй усмешкай, дотыкам да Вашай рукі. Толькі за адно тое імгненне, калі Вы крутануліся (прыходзілася страчацца з падобным?!) з-пад майго пляча, бо зажадалася абняць і пацалаваць Вас, гатовы памятаць усё жыццё гэтае падхлынуўшае хваляванне. Дзень быў сонечны, прамяністы, зіхоткі. На стажку з бярвенняў, што адтаялі ўвесну, бярозавых у нарасціх яшчэ зімовых, хваёвых з тоўстай, шышкамі, карой, сасновых з тонкім і празрыстым, крохкім шалупіннем, сядзелі хлопчык і дзяўчынка і выпускалі з рук сваіх сонечных зайчыкаў з маленькага кругленькага люстэрачка. Кружок той пераходзіў з рук у рукі з воклічамі: «Дай мне!», «Дай мне!» Пасля хлапчук паклаў у кішэньку люстра і сказаў: «Там будзеш ты, калі дома я ў люстра пагляджу? Будзеш? Будзеш? Ты не раз глядзелася ў люстру!» «Глядзелася! Глядзелася! Глядзелася!» І ён схаваў люстэрачка, зашпіліўшы на гузічак верхнюю кішэньку бэжавай устаўкі аксамітавай фланелевай футболкі. Вяртаўся назад — бачыў, што дзеці яшчэ штурхаюцца, адваёўваючы права на люстэрка, у якім павінен застацца той профіль, што ўпадабаў хлапчук.

*Вы так часта пазіралі ў люстру*
*І ніколі — да мяне ў вочы,*
*Дзе Вы таксама адбіваецеся*
*У чорных бліскучых зрэнках —*
*Гэтых дробненькіх, крохкіх люстэрках.*
*Але згіне з люстры Ваш вобраз*
*І следу не кіне,*
*А ў маёй душы*
*Яму ўжо не згінуць.*

Вы і ёсць мая мілая! Зразумейце, што кожная наша сустрэча зусім невыпадковая. Усе мы, людзі, нараджаемся без падобнага люстэрачка ў патайной кішэньцы нашага адзення. Але мы глядзімся, як у люстэрка, адзін у аднаго, наталяемся прагай душэўнага суладдзя і ўнутранага характа, цяплом узаемадачынення. Мы яшчэ не можам сказаць «Я есмъ я», але гэтыя сустрэчы напаўняюць усё больш і больш наш унутраны свет, і ён становіцца часцінкай (магчыма, найважлівай) уласнай самасвядомасці. Мнагастайнасць людзей як асоб і адметнасць індывідуальнага жыццёвага вопыту робіць наша жыццё непаўторным і паўнавартасным, прадвызначальным. Дазвольце наглядзецца на Вас, бо адвесці позірк ужо не магу і не хачу.

*Яраслаўль, 16 жніўня 1913 года.*
*Ад гэтага часу з яскравым Вашым вобразам у сэрцы,*
*Паэт Максім Крыніца.*

### Ліст 8. Слухаючы «Перапёлачку»

**Мілая А.!**

Учора вечарам не пабачыў Вас, не пабываў у тым доме на Канатнай вуліцы. Даруйце мне, але затое давялося быць сведкам надзвычайнага цуду — выступлення з канцэртам студэнтаў трох інстытутаў, дзе вучацца будучыя настаўнікі: адзін аседлы, яраслаўскі, і два мінскія, беларускія, якія эвакуіраваны сюды з-за таго, што на маёй радзіме ідзе вайна. Душа баліць і за людзей, і за сяброў, і за самых студэнтаў — вайна нічога добрага не прыносіць простаму люду. Вайна — працяг палітыкі, але іншымі сродкамі. Паны дзяруцца, а ў мужыка лоб трашчыць. Усе і ўсюды дзеляць свет, дабіваючыся да новых рынкаў, да народнага дабра, да адкрытых радовішчаў, намагаючыся захапіць усё новыя і новыя тэрыторыі. Для каго вайна, а для каго — карова дайна. Нажываюцца на вайне таўстасумы і пражоры, каб іх расперла ці каб яны трэснулі напапалам ад абжорства. Лепей людзей свайго краю, свайго роду збіраць, абгортваць, лагодзіць і дбаць аб дабрабыце. Недзе ўцягнуты ў гэтую калатнечу і мой край, мая родная беларуская зямля. Калі я чую, што пад Нарачу кайзераўцы прымянілі атрутныя газы, дык душа мая пратэстуе, бо гэта ж на сколькі гадоў забрудзяць не толькі тэрыторыю, патруцяць мірнае насельніцтва, але і паветра, бо чорнымі воблакамі накрыецца неба. Зямля ці справіцца з навалаю чорнай? Гнаныя вайной, прыехалі да нас у Яраслаўль на Волгу і студэнты. Рыгор Раманавіч Шырма, энтузіяст беларускай народнай песні, арганізаваў хор са студэнтаў трох інстытутаў, быццам бы яны ўсе адной гадоўлі, усе нашы: беларуска-рускія і руска-беларускія. Матчыны сыны, адным бацькам гадаваныя. Яны спявалі народныя песні. Які цуд песня «Перапёлачка»! Увогуле, шмат гучала песень.

Ёсць такая геапалітычная рэальнасць у цэнтры Еўропы — Беларусь, са сваёй этнічнай тэрыторыяй, народам, мовай, культурай, спевамі, танцамі, багацейшымі традыцыямі, якія лепей за ўсякія памежныя слупы, калючы дрот, межы бароняць Бацькаўшчыну. Нашу песню не зблытаеш ні з якой іншай. Рэгент хору Рыгор Шырма — надзвычай вялікі энтузіяст народнай песні, апантаны знаўца, расказаў мне, што песня Леля з оперы Мікалая Рымскага-Корсакава «Снягурка» — гэта акурат наша беларуская народная песня «Ой, ляцеў арлішча». Мне думаецца, што шматлікія беларускія народныя мелодыі бяруць свой пачатак з царкоўнага песнапення. Селянін ішоў у царкву ці касцёл, слухаў там гімны, галашэнні, харалы, екцініі, рэчытатывы, псалмы, а потым, вяртаючыся дадому, напяваў пад нос тую мелодыю, ды яшчэ і словы свае прыдумляў на знаёмыя матывы. Так нарадзіліся «Ой, пагнала бабуленька куранятак пасвіць» і «По Дону гуляет казак молодой». А яшчэ цікавей, калі гэта быў хлапчук, які кіёчкам на плоце выстукваў чутую ў святым месцы, на вячэрні ці на малебне, любімую мелодыю…

*Яраслаўль, восень 1916 года.*
*Твой Максім Крыніца.*

* «С нами любовь» (рус., чыт. справа налева).

**ДАТАпіс: Рыга**

***Прэзентацыя міжнароднага навуковага і выдавецкага праекта «Кніжная спадчына Францыска Скарыны» (праект Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і Банка БелВЭБ) адбылася ў межах святкавання 25-годдзя з дня ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Латвіяй. Латвійская нацыянальная бібліятэка атрымала ў падарунак поўнае факсімільнае ўзнаўленне кніжнай спадчыны Францыска Скарыны.***

# КАЛІ ЛІТАРАТУРА АСВЯТЛЯЕ

Пагартаць старонкі класікі разам з праніклівым, дасведчаным чытачом — ужо дзеля гэтага варта ўзяць з паліцы новую манаграфію літаратуразнаўцы і крытыка Зінаіды Драздовай. Вядома, у тым выпадку, калі вы, як і аўтар кнігі, аддаяце перавагу творам, «здольным распаліць агеньчык веры, прагі духоўнасці, імкнення да ідэалу».

Абраныя даследчыцай пісьменнікі — Алесь Наварыч і Валянцін Распуцін, Іван Навуменка і Васіль Бялоў, Максім Гарэцкі і Канстанцін Паўстоўскі — маюць нямала агульнага ў светапоглядзе і з'яўляюцца выдатнымі стылістамі. Таму, аналізуючы творы беларускай і рускай класікі, блізкія па праблематыцы, Зінаіда Драздова звяртае ўвагу на асаблівасці індывідуальнага стылю: адзначае адметнасці стварэння партрэта персанажа, пабудовы дыялогу, унутранага маналогу, выбар на карысць тых ці іншых тропаў. Адсюль яшчэ адна нагода ўзяцца за манаграфію «Маляўнічая сіла слова...»: калі вы пішаце прозу, гэта даследаванне будзе добрым знаёмствам з багатым арсеналам мастацкіх сродкаў і разнастайнасцю мастацкіх стратэгій у стварэнні вобразаў-персанажаў.

Як выкарыстанне тых ці іншых мастацкіх прыёмаў вызначае поспех мастацкага твора? У кнізе можна знайсці нямала цікавых назіранняў. Каб вызначыць адметнасці дыялогаў, Зінаіда Драздова арыентуецца на меркаванні пісьменніка Марціна Бубера, даследчыкаў Шарля Балі і Міхаіла Бахціна. Пры аналізе формаў партрэта, якія выкарыстоўваюцца ў мастацкай літаратуры, звяртаецца да тыпалогіі Маргарыты Габель, дзе вылучаецца дзесяць форм партрэта (партрэт-уражанне, або «гамераўскі партрэт», партрэт пашпартных прыкмет, жывапісны, архітэктурны, сатырычны партрэты і г. д.).

Адначасова з даследаваннем стылістыкі Зінаіда Драздова надае вялікую ўвагу тэме сямейных дачыненняў і спыняецца на творах, якія маюць падобны сюжэт. «Ёсць мастацкія творы, якія для даследчыка літаратуры быццам напрошваюцца для параўнання», — зазначае аўтар манаграфіі і на пачатку кнігі абірае для супастаўлення аповесці Алеся Наварыча «Цкаванне вялікага звера» (1988) і Валянціна Распуціна «Живи и помни» (1974). У абодвух творах закранаецца тэма дэзерцірства, а галоўнымі гераінямі з'яўляюцца вясковыя жанчыны. Яны любяць і чакаюць мужоў, але дачаснае вяртанне суджэнцаў з фронту робіцца вялікім выпрабаваннем для іх пачуццяў.

Блізкія па тэматыцы і сюжэце творы — аповесці Івана Навуменкі «Развітанне ў Кавальцах» (1974) і «Воспитание по доктору Споку» (1968 — 1987), дзе паўстае вобраз эмансіпаванай савецкай жанчыны — самастойнай, практычнай, свабоднай у стасунках, зацікаўленай матэрыяльным бокам жыцця і пазбаўленай духоўнай глыбіні. Яшчэ адзін твор на гэту тэму, дзе дэманструецца неадпаведнасць сучаснага жаночага ладу жыцця ідэалам традыцыйнай народнай культуры, — апавяданне Валянціна Распуціна «Женский разговор». У манаграфіі падкрэсліваецца сугучнасць беларускай і рускай літаратур: погляды пісьменнікаў розных краін часта супадаюць пры ацэнцы маральных і сацыяльных праблем сваёй эпохі.

Даследчыца аналізуе не толькі творы, дзе ўвасоблены хрысціянскія погляды на сям'ю, шлюб, каханне, але і творы, напісаныя ў рэчышчы сацыяльнага крытыцызму. Так у манаграфію трапляюць аповесці Алены Брава, Анатоля Казлова, Уладзіміра Хількевіча ды іншых сучасных айчынных аўтараў. Храналагічныя межы даследавання ўвогуле дастаткова шырокія: адна з частак работы прысвечана супастаўленню творчай манеры Канстанціна Паўстоўскага і Максіма Гарэцкага. Калі К. Паўстоўскі лічыцца майстрам пейзажу, то ў творах М. Гарэцкага малюнкаў прыроды не так шмат. Аднак абодва пісьменнікі, сапраўды, «валодалі зайздросным уменнем бачыць, чуць і перадаваць свае ўражанні словамі», былі «эстэтамі ў літаратуры».




*Маляўнічая сіла слова: беларуская і руская проза XX — XXI стст.: параўнальна-тыпалагічны кантэкст / З. У. Драздова; навук. рэд. В. П. Жураўлёў. — Мінск: Беларуская навука, 2017. — 258 с.*

Манаграфія «Маляўнічая сіла слова...» дапамагае сарыентавацца ў прозе XXI стагоддзя, адкрыць новыя творы. Так, у раздзеле «Партрэт, пейзаж і дыялог у мастацкіх творах аб хрысціянскіх святых» супастаўляюцца раман-жыціе Валянціны Коўтун «Пакліканы», аповесці расійскага пісьменніка Аляксея Саланіцына «Земной ангел» і «Взыскание погибших», раман сербскай пісьменніцы Ліляны Хаб'янавіч Джуравіч «Петкана» (пераклад на беларускую мову Івана Чароты). Чытач, які дайшоў да заключнага раздзела, безумоўна, зверне ўвагу на гэтых аўтараў, бо агульная скіраванасць даследавання спрыяе цікавасці да духоўнай літаратуры. Зінаіда Драздова непрыкметна схіляе да думкі, што творы, якія «не аддаляюць, а набліжаюць да Бога, абуджаюць добрыя думкі», вартыя першапачатковай увагі як даследчыка, так і аматара літаратуры.

**Янка НАТАВЕЦ**

# ШЛЯХІ ДА ПАРАЗУМЕННЯ




Серыя «Минская городская библиотека» была заснаваная выдавецтвам «Чатыры чвэрці» ў 2016 годзе з мэтай пазнаёміць чытача з творамі лепшых беларускіх аўтараў-жыхароў Мінска на рускай мове. Сёлета ў серыі выйшлі дзве кнігі мастацкай прозы — аўтарскі пераклад рамана Алеся Савіцкага «Зямля не раскажа» і раман-хроніка Уладзіміра Гніламёдава «Расія» ў перакладзе Міхася Пазнякова. Кнігі серыі былі прэзентаваныя на XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выставцы-кірмашы і выклікалі вялікую зацікаўленасць не толькі ў сталічных чытачоў.

Алеся Савіцкага — пісьменніка з няпростым, але багатым на знакавыя падзеі лёсам, які не адно дзесяцігоддзе плённа працаваў у беларускай літаратуры, — не стала адносна нядаўна, у кастрычніку 2015 года. Таму выхад кнігі менавіта з такой назвай — **«Зямля не раскажа»** — падаецца сімвалічным. У рамане гэтыя радкі гучаць з вуснаў гусляра-жабрака, якога бачыць галоўная гераіня Рэната на гарадскім рынку:

*Земля ничего не расскажет,*
*Земелька надёжно схоронит.*
*А людцы всё видят, а людцы всё расскажут,*
*Земелька не всех похоронит.*

Рэната чуе ў тужлівай песні надзею: зямля пахавае гора, бяду, але не пахавае жыццё. Менавіта ў такім рэчышчы варта шукаць разгадку назвы рамана. Нездарма ў анатацыі пазначана, што твор адрасуецца перш за ўсё маладому пакаленню, якое не бачыла вайны, якому пра яе *«раскажуць людцы»*.

Раман распавядае няпростую гісторыю выжывання жанчыны з чатырма дзецьмі на акупіраванай тэрыторыі: у апавядальнай канве вельмі шмат трагічнага, героям даводзіцца перажываць прыніжэнні, абразы, пакуты сумлення, фізічны боль і горыч страты родных. Але пры гэтым у творы няма напускнога пафасу, якім часам у ваеннай тэматыцы падмяняецца сюжэт. Так, Рэната перажывае вайну і акупацыю не толькі як праблему выжывання сям'і, але і як трагедыю свайго народа, аднак створаныя аўтарам унутраныя дыялогі — глыбока інтымныя, шчымлівыя — выклікаюць давер, не пераўтвараюцца ў абстрактныя лозунгі.

Найбагацейшы жыццёвы досвед Алеся Савіцкага паспрыяў таму, што перад чытачом не сентыментальны набор стэрэатыпаў у аблічны шматдзетнай маці Рэнаты, а цікавы, неадназначны, складаны вобраз. Рэната ва ўсіх нягодах пакорліва пытаецца: *«За што караеш, небачка?»*, з жахам адзначае, як усё больш спакойна пачынаюць успрымацца чалавечыя пакуты і смерць. І аўтар «не ўмешваецца» ў яе ўнутраны свет дыдактычнымі парадамі. Аўтарская думка агучваецца пабочнымі персанажамі. І, мабыць, самае галоўнае, што хацеў данесці да чытача Алесь Савіцкі, прагучала ў дыялогу Рэнаты і яе выпадковай выратавальніцы Ганны: *«— Цяпер за ўсё трэба плаціць! Усё так перавярнулася ў гэтым свеце… — Дык у свеце, можа, яно і перавярнулася. А вось у сэрцы чалавечым — не павінна»*. Гэта робіць раман «Зямля не раскажа» актуальным і сёння.

Іншы перыяд — падзеі 1915 — 1922 гг. — прадстаўлены ў рамане-хроніцы пісьменніка і літаратуразнаўца **Уладзіміра Гніламёдава «Расія»**. Падзеі адбываюцца ў асноўным падчас Першай сусветнай вайны, якая прымушае галоўнага героя Лявона Кужаля і яго землякоў з вёскі Пруска пакінуць родную Брэстчыну і падацца на ўсход Расіі. Раман друкаваўся ў беларускай літаратурнай перыёдыцы, выходзіў асобнай кнігай па-беларуску, а вось на рускай мове друкуецца ўпершыню.




Калі гаворка заходзіць пра гэты раман, то адразу прыгадваюцца творы беларускіх класікаў на тэму бежанства: «Жартаўлівы Пісарэвіч» Максіма Гарэцкага і «Туды, на Захад!» Якуба Коласа. Сапраўды, пасля нашых славутых класікаў У. Гніламёдаў першы звярнуўся да грунтоўнай мастацкай распрацоўкі гэтай тэмы. Важна яшчэ і тое, што гучыць вельмі мала асветленая ў нашай літаратуры тэма Першай сусветнай вайны.

Раман заснаваны на рэальных падзеях ці, кажучы больш дакладна, на сямейнай гісторыі. Паводле прызнання пісьменніка, ён з дзяцінства чуў расповеды пра бежанства і праз гады нават сам некалькі разоў наведаў сяло Заплаўнае (у рамане Запалоннае), дзе ўрэшце аказаліся яго аднавяскоўцы. Працаваў у архівах, сустракаўся з вяскоўцамі, каб урэшце пацвердзіць высновы Гарэцкага і Коласа: светапогляд у двух народаў розны. Тым цікавей знаёміцца з пісьменніцкімі апісаннямі побыту беларускіх бежанцаў, жыццёвы лад якіх на пэўны час аказаўся «ўпісаны» ў іншую сістэму каардынат.

Сур'ёзная шматгадовая праца Уладзіміра Гніламёдава не засталася без увагі і атрымала багата станоўчых водгукаў. Думаецца, выхад кнігі на рускай мове зможа пашырыць прыхільную чытацкую аўдыторыю.

Пра складанасці і праблемы ў сістэме адукацыі гавораць шмат. Праўда, сітуацыя ад гэтага цягам дзесяцігоддзяў не змяняецца, школьнае навучанне па-ранейшаму пераважнай большасцю дзяцей і падлеткаў успрымаецца як выкананне нялюбага абавязку. Менавіта таму фраза «Я хачу ў школу!» з вуснаў падлетка гучыць настолькі нязвыкла, што выклікае ў бацькоў насцярожанасць. Гэтак мяркуюць вядомыя сёння ў Беларусі і Расіі рускамоўныя пісьменнікі Андрэй Жвалеўскі і Яўгенія Пастарнак, якія далі сваёй аповесці акурат такую парадаксальную назву — «Я хачу ў школу!». Чарговае выданне папулярнай кнігі зусім нядаўна пабачыла свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці».

Кніга **«Я хачу ў школу!»** — фіналіст і лаўрэат шматлікіх прэстыжных расійскіх конкурсаў і прэмій, а на сярэдзіну чэрвеня 2017 года ў Расійскім акадэмічным маладзёжным тэатры запланаваная прэм'ера п'есы паводле гэтай аповесці. Аўтары нездарма маюць шырокае прызнанне менавіта ў Расіі: дзеянне ў гэтай, як і ў многіх іншых кнігах аўтараў, разгортваецца ў расійскіх гарадах.




«Дзейнічаць, каб навучыцца, а не вучыцца, каб дзейнічаць», «школа павінна змяняцца для дзіцяці, а не дзіця для школы» — гэтыя лозунгі гучаць у нашым культурным кантэксце безнадзейна ідэалістычна. Псіхолагі даюць парады бацькам не псаваць адносін з дзіцем з-за дрэнных адзнак, бо жыццё большае за школу, аднак нават тыя бацькі, якія згодныя з тэорыяй, далёка не заўсёды могуць зрабіць правільны выбар.

У гэтым сэнсе кніга «Я хачу ў школу!» — універсальная. Яна будзе дарэчы і тым, хто выпраўляе сваё дзіця ў першы клас, і тым, чые дзеці ўжо вучацца ў старэйшых класах, і самім старшакласнікам. Аўтары закранаюць ледзь не ўсе праблемы сучаснай школы: ад традыцыі называць вучняў па прозвішчы да непрадуктыўных метадаў бяздумнага завучвання на памяць і перапісвання пад дыктоўку. Агучваецца і самае крыўднае і балючае для падлеткаў: сітуацыя, калі бацькі паміж верай у сваё дзіця і верай у сістэму выбіраюць апошняе. Гэтая кніга — не змова супраць настаўнікаў (дарэчы, аўтарскае прысвячэнне менавіта ім, лепшым педагогам), праблемы, з якімі даводзіцца штодзень сустракацца настаўнікам, таксама закранаюцца.

Школы з незвычайнымі метадамі навучання — не толькі плён пісьменніцкай фантазіі. Такія школы існуюць у Еўропе, Амерыцы і нават некалькі — у Расіі. Але паўсюль гэта адзінкавыя выпадкі, якія толькі падкрэсліваюць абсалютную няздольнасць сістэмы адукацыі змяняцца. І калі мастацкая аповесць не ў стане паўплываць на гэта, то, прынамсі, дапамагчы дзецям, бацькам і настаўнікам знайсці шлях да паразумення яна дакладна зможа.

**Наталля НАРУТОВІЧ**

**ДАТАпіс: Лондан**

***У лютым імя Францыска Скарыны прагучала ў Лондане. Святкаванне 500-годдзя беларускага кнігадрукавання прайшло ў сценах знакамітай Брытанскай бібліятэкі, дзе быў падпісаны мемарандум аб узаемапаразуменні паміж Брытанскай бібліятэкай і Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі. У межах свята зладзілі канферэнцыю, дзе выступоўцы з Беларусі, Вялікабрытаніі, Японіі, Германіі, ЗША ды іншых краін прадставілі і абмеркавалі даследаванні, прысвечаныя працы і спадчыне Францыска Скарыны, праблемам беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці, мовы і літаратуры.***

# АД ЛЕГЕНДЫ ДА ІСЦІНЫ:

## фальклярыст і міфатворца Вульф Сосенскі

**Журналіст і збіральнік фальклору Вульф Сосенскі вядомы ў гісторыі літаратуры найперш як сябар і «першаадкрывальнік» Змітрака Бядулі. Яго ўласны культурны ўнёсак мог бы падацца сціплым, калі б не яшчэ адна цікавая акалічнасць: Вульф Сосенскі, па сутнасці, быў першым этнічным яўрэем, які вырашыў свядома працаваць на ніве беларускай нацыянальнай культуры.**

Нарадзіўся Вульф Сосенскі ў 1883 г. у мястэчку Даўгінава Вілейскага павета Віленскай губерні (цяпер аграгарадок у Вілейскім раёне Мінскай вобласці). Ён быў старэйшым сынам у шматдзетнай сям'і вядомага ў ваколіцах краўца Абеля (Габеля) Сосенскага. Як і многія яўрэйскія хлопчыкі, Вульф вучыўся ў хедары (пачатковай яўрэйскай школе), але ў дзевяць гадоў пакінуў яго, каб дапамагаць бацьку ў працы: трэба было аднаўляць знішчаную пажарам гаспадарку. У адбудаваным нанова доме часта бывалі госці, якія па вечарах займалі гаспадара і яго сям'ю цікавымі расповедамі. Некаторыя з іх яшчэ памяталі падзеі паўстання 1863 — 1864 гг. Знаёмствы з гэтымі людзьмі ўплывалі на светапогляд Вульфа Сосенскага, паспрыялі таму, што яшчэ ў канцы 1890-х гг., будучы падлеткам, ён блізка ўспрыняў ідэі беларускага адраджэння, далучыўся да нацыянальна-вызваленчага руху, пачаў займацца асветніцкай дзейнасцю: распаўсюджваў па вёсках нелегальную літаратуру, вучыў на памяць і чытаў сялянам вершы Ф. Багушэвіча. Акрамя таго, Вульф Сосенскі меў прыемны голас і прыгожа спяваў народныя песні. Ён быў удзельнікам аматарскага культурнага гуртка, які дзейнічаў у Даўгінаве з 1904 г. пад кіраўніцтвам Яўгена Ельцава. Мястэчковыя юнакі і дзяўчаты, а таксама студэнты з Мінска чыталі і абмяркоўвалі кнігі, самі рабілі літаратурныя спробы і крытыкавалі адно аднаго, шырылі веды сярод насельніцтва, займаліся тэатральнымі пастаноўкамі, рупіліся пра тое, каб стварыць у Даўгінаве вячэрнюю школу для моладзі.

Адначасова з кравецкай працай В. Сосенскі актыўна займаўся самаадукацыяй і вывучыў некалькі моў. Пачынаючы з лета 1908 г., ён супрацоўнічаў з рэдакцыяй газеты «Наша Ніва», публікуючы ў ёй карэспандэнцыі і невялікія нарысы. Пераважна дзякуючы яму на старонках газеты асвятлялася жыццё мястэчка Даўгінава. Менавіта ў той час Вульф Сосенскі прапанаваў даслаць вершы ў «Нашу Ніву» свайму знаёмаму Шмуэлю Плаўніку (будучаму Змітраку Бядулю) і паведаміў рэдакцыі пра маладога песняра з мястэчка Пасадзец. Пазней В. Сосенскі вырашыў удасканаліць сваё рамесніцкае майстэрства і «скончыў курс кравецтва ў дырэктара Дрэздэнскай акадэміі», пасля чаго ў 1910 г. ужо сам «залажыў вялікую швальню і вучыліішча кравецтва». Але чарговы пажар зруйнаваў дом маладога краўца, а разам з ім — і ўсе мары пра швальню.

Неўзабаве на нейкі час прыпынілася і журналісцкая актыўнасць В. Сосенскага. Гэта звязана з яго службай у Расійскай арміі (1910 — 1912). У час Першай сусветнай вайны Вульф Сосенскі і яго малодшы брат Пейсах былі мабілізаваныя на фронт, удзельнічалі ў баях. Пейсах прапаў без вестак (хутчэй за ўсё, загінуў), а Вульф трапіў у нямецкі палон. Вызваліўшыся, у 1921 г. ажаніўся і да Другой сусветнай вайны займаў высокую адміністрацыйную пасаду ў Яўрэйскім народным банку (Żydowski Bank Ludowy) — адзіным банку ў міжваенным Даўгінаве.



*В. Сосенскі (крайні злева) на працы ў калгасе. 1961 год.*

У 1920-х гг. В. Сосенскі публікаваў нататкі і карэспандэнцыі (у тым ліку пад псеўданімамі *Даўгінавец* і *Тутэйшы*, крыптанімам *В. С.*) у віленскіх газетах «Беларускі звон», «Беларуская ведамасці», «Наш сьцяг», «Наша будучына», «Рэха». Займаўся ён і грамадскай дзейнасцю, спрабаваў стварыць у Даўгінаве беларускую культурніцкую суполку і не забываўся на сваю ідэю скіроўваць яўрэяў працаваць на карысць беларускай культуры. *«...Навет і жыды разумеюць ясна, на якой зямлі яны жывуць»*, — пісаў ён у адной з газетных нататак, выказваючы думку, што «пачуцьцё беларускасьці» ўяўляецца натуральным для ўсіх насельнікаў краю, незалежна ад іх этнічнага паходжання і веравызнання.

На пачатку 1930-х гг. Вульф Сосенскі падказаў вядомаму мовазнаўцу і гісторыку Янку Станкевічу цікавую тэму для даследавання: яўрэйскія рэлігійныя песні на беларускай мове. Адну з такіх песень, «Бацька, бацька!..», даўгінаўскі журналіст праспяваў Я. Станкевічу, а той запісаў. Публікуючы яе, навуковец заклікаў усіх «зьбіраць жыдоўскія рэлігійныя песьні ў беларускай мове», бо «яшчэ крышку часу і будзе зусім позна». Яркі прыклад у гэтай справе падаў сам жа В. Сосенскі, склаўшы ў першай палове 1930-х гг. рукапісны зборнік «Беларуска-жыдоўскі фальклор з мястэчка Даўгінава».

1 сакавіка 1935 г. у Вульфа Сосенскага памерла жонка, пакінуўшы яму шасцярых дзяцей, адзін з сыноў да таго ж быў хворы на эпілепсію. Але яшчэ страшнейшыя пакуты і выпрабаванні прынесла Другая сусветная вайна: у першыя яе месяцы акупанты знішчылі ўсіх дзяцей В. Сосенскага, а таксама чатырох братоў і сястру. Сам журналіст апынуўся ў эвакуацыі ў Тагучынскім раёне Новасібірскай вобласці Расіі, дзе працаваў у калгасе. Там ён пазнаёміўся са сваёй будучай другой жонкай Буняй Меерсон, маладзейшай за яго на 32 гады. Ад гэтага шлюбу ў 1945 г. нарадзілася дачка Раіса. Вульф Сосенскі жыў з сям'ёю ў мястэчку Ікшкіле ў Латвіі і працягваў працаваць краўцом, пакуль не пагоршыўся зрок.

У пасляваенны час ён актыўна працаваў на ніве фалькларыстыкі: перапісваў па памяці народныя казкі і легенды. Запісаныя творы ён аб'ядноўваў у цыклы «Са старога скарбу» і «Казкі старога Лявона». Па словах В. Сосенскага, апавядальнік стары Лявон — рэальная асоба, «дзед з мястэчка Даўгінава». Подпіс *«Даўгінава»* стаіць і пад многімі іншымі ўзгаданымі і запісанымі В. Сосенскім народнымі творамі: песнямі, жартамі, анекдотамі, прыказкамі, прымаўкамі. Пад некаторымі з тэкстаў стаяць дзве даты: год, калі В. Сосенскі ўпершыню пачуў адпаведны аповед, і год, калі ён яго запісаў на паперу. Часавая разбежка паміж гэтымі датамі можа быць надта вялікая — нават у 70 гадоў: *«Даўгінава, 1895, з памяці перапісаў 1965 г.»* (казка «Авар'ян і свенты Вікцэнты»). Навідавоку вялікая ступень аўтарскай перапрацоўкі народных паданняў і легенд: пачутае шмат гадоў таму ў падлеткавым узросце ён мог разгортваць у аб'ёмныя, памерам набліжаныя да аповесці, творы. Таму далёка не ўсё, запісанае В. Сосенскім, — фальклор у чыстым выглядзе.

Свае рукапісы В. Сосенскі дасылаў у Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, з супрацоўнікамі якога — дый не толькі яго — вёў актыўную перапіску. Яго карэспандэнтамі былі многія вядомыя пісьменнікі і навукоўцы: Сцяпан Александровіч, Майсей Грынблат, Іван Гутараў, Янка Журба, Уладзімір Казбярук, Арсень Ліс, Максім Танк, Анатоль Фядосік, Рыгор Шкраба, Станіслаў Шушкевіч ды іншыя. Сярод тагачасных твораў В. Сосенскага вылучаюцца «Версіі і легенды: Гутаркі пра беларускага паэта Ф. К. Багушэвіча» (1956), а таксама ўспаміны: «Першыя сустрэчы» (пра З. Бядулю), «Даўныя тэатры» і пакуль яшчэ не апублікаваныя «Лісткі з маёй кнігі» і «Цёмныя шыбы майго акна», дзе В. Сосенскі прыгадвае Даўгінава канца XIX — пачатку XX ст., сялянскі рух падчас рэвалюцыі 1905 — 1907 гг., нашанiўскія часы і іх дзеячаў. Пісаў ён таксама вершы, байкі, гумарэскі, апавяданні, сцэнічныя жарты.

Сутыкаючыся з праявамі антысемітызму, В. Сосенскі вырашыў пакінуць СССР, у 1966 г. эміграваўшы праз Польшчу ў Ізраіль. Апошнія гады жыцця правёў у Іерусаліме, у раёне Кір'ят га-Еўэль, працягваючы, наколькі дазваляў кепскі зрок, запісваць і апрацоўваць фальклор, пра што сведчыць, напрыклад, арабская казка «Трэба слухаць бацьку», пачутая ад іракскага яўрэя. Даследчыцы Дайне Бэгар ён распавёў каля 40 народных казак беларускіх яўрэяў. Некаторыя з гэтых казак трывала ўвайшлі ў фальклорную скарбонку: іх перыядычна змяшчаюць у зборніках і анталогіях, у тым ліку і ў перакладах на замежныя мовы. Памёр Вульф Сосенскі ў 1969 г. (дакладную дату ўстанавіць пакуль не ўдалося).

Вульф Сосенскі меў бясспрэчны талент апавядальніка; даволі каларытная ў яго і мова. Аднак бракавала яму філалагічнай адукаванасці, таму творы поўныя стылістычных, граматычных і арфаграфічных хібаў. Яшчэ ў 1940 г. Змітрок Бядуля раіў яму ў вольны час вучыцца, *«каб стаць добраграматным чалавекам»*, *«…а то ты пішаш так, як пісаў 30 год таму назад»*. На жаль, гэтая заўвага засталася справядлівай і для тэкстаў В. Сосенскага 1950-х гг. — іх мова далёкая ад дасканаласці: у ёй пераблытаны паміж сабой дэрэформавы і рэфармаваны правапісы, многія словы маюць вельмі не адпаведнае літаратурным нормам напісанне: *чалаўек* (чалавек), *ёсцка* (ёсцека), *усо* (усё), *стойцэ* (стойце), *цякае* (чакае), *лёх* (лёг), *запрох* (запрог), *саслуч* (сашлюць), *лі чага* (для чаго), *лі тага* (для таго) і г. д. Акрамя таго, словы часта ўжываюцца ў няправільных склонах, шмат і пунктуацыйных парушэнняў. Прычым усе гэтыя лексічна-стылістычныя хібы не з'яўляюцца моўнай характарыстыкай персанажаў (такой мовай аўтар піша і ад свайго імя) і таму з'яўляюцца неапраўданымі. Таму сёння пры публікацыі ягоных твораў, напэўна, варта арыентавацца найперш на прынятыя сучасныя правапісныя нормы, з адпаведнымі граматычнымі і арфаграфічнымі праўкамі. Прынамсі, так было зроблена ў гісторыка-краязнаўчым гадавіку «Вілейскі павет», дзе ў выпусках 2 і 3 выйшлі ўспаміны В. Сосенскага «Версіі і легенды» і «Даўныя тэатры». З крытычнай асцярожнасцю трэба ўспрымаць і гістарычныя факты, якія аўтар часам падае ў міфалагізаванай, прапушчанай праз народную свядомасць інтэрпрэтацыі.

Сёння творчая спадчына Вульфа Сосенскага захоўваецца ў Бібліятэцы Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх (ф. 21, адз. зах. 568 — 571), архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, а таксама ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (фонд 136) — былым Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва БССР, куды легендарны нашанівец перадаў свае артыкулы і перапіску перад ад'ездам у эміграцыю. Архіў В. Сосенскага хавае ў сабе яшчэ шмат матэрыялу для магчымых публікацый, якія, безумоўна, зацікавяць літаратуразнаўцаў, фалькларыстаў, краязнаўцаў і гісторыкаў.

**Віктар ЖЫБУЛЬ,**
**кандыдат філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік БДАМЛМ**

**Фота з фондаў ІМЭФ**

**ДАТАпіс: Талін**

***На прэзентацыю факсімільнага ўзнаўлення кніжнай спадчыны Францыска Скарыны ў Нацыянальнай бібліятэцы Эстоніі сабраліся беларусы, што жывуць у розных рэгіёнах гэтай краіны. Удзел у мерапрыемстве ўзялі супрацоўнікі Нацыянальных бібліятэк Беларусі і Эстоніі, супрацоўнікі Пасольства Рэспублікі Беларусь у Эстонскай Рэспубліцы, прадстаўнікі ўсіх беларускіх грамадскіх арганізацый, дыпламаты розных краін. Эстонскія даследчыкі выказалі зацікаўленасць ва ўдзеле ў Міжнародным кангрэсе «500 гадоў беларускага кнігадрукавання».***

# З ПЯРОМ І КНІГАЙ

## Прысвячэнні смеламу мастаку і сучаснаму натхняльніку

**Ён быў мастак… Нават мастак-эксперыментатар: кніжная графіка Беларусі абавязаная Скарыну як самім сваім з'яўленнем, так і небывалай дагэтуль творчай смеласцю: святыя кнігі, паходжаннем якіх людзі былі абавязаны Богу, ён упрыгожыў… сваёй выявай. Тым самым падкрэсліў значнасць асобы аўтара, які ўпершыню нешта стварае, узняў само разуменне творчасці, адкрыўшы шлях быць сабой, — у выказваннях праз словы і выявы. Можа, таму звяртацца да вобраза Скарыны так любяць беларускія сучасныя мастакі?**

### У ТРЭНДЗЕ

Сёлета Беларускі саюз мастакоў рыхтуе краіне ў падарунак мастацкі праект «Скарыніяна» — чакаць яго варта бліжэй да лістапада. Арганізатары абяцаюць здзівіць гледача як ідэяй, так і яе рэалізацыяй.

— Мы прывязаны да слова. Аднак выстаўка не стане прамым адказам на пытанне гісторыі, тут хутчэй будзе сінтэз: аўтары паспрабуюць раскрыць слова, вобраз Скарыны з пункту гледжання актуальнасці, сучаснасці і развіцця, — расказвае намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў па творчых пытаннях Леанід Хобатаў. — Аўтары выкажуць свае адносіны да літары і нават лічбы. І абавязкова прадэманструюць вобраз літаратуры ў цэлым. Мы хоць і гаворым пра гістарычныя факты, але праз іх асэнсаванне імкнёмся рухацца наперад, чакаем прагрэсу. Здаецца, што ў гэтую тэму прыўнесці нешта новае немагчыма, яна ўжо насычана рознымі меркаваннямі, фактамі, нават легендамі. Але сімвалы — заўсёды вечныя і могуць абрастаць новым зместам і формай. Тым больш калі тэму слова раскрываюць мастакі, гэта заўсёды цікава, арыгінальна, незвычайна. Аўтары не пішуць літарамі, а выказваюцца праз колер, стыль, сімволіку.

Практыка сведчыць, што падобныя выставачныя праекты ў Беларусі маюць поспех. Развіццё і папулярызацыя культуры сумесна з асвятленнем гістарычнага кантэксту — сучасны трэнд. Мастакі часта акцэнтуюць увагу на творчасці знакамітых дзеячаў, тым самым прыцягваюць увагу шырокай публікі. Бывае так, што імя чалавека становіцца проста назвай, сімвалам, а выстаўка метафарычна падкрэслівае не столькі вобраз асобы, колькі падзеі, звязаныя з яго жыццёвым шляхам. Так, імя Францыска Скарыны сёння гучыць паўсюль, і гэта дасягненне: прайшло столькі гадоў, але яго біяграфія цікавая сучаснікам.

І мастакам: выдатныя асобы нейкім дзіўным чынам абуджаюць энергію, натхняюць. Напрыклад, мастачка Аксана Аракчэева неаднаразова звярталася да імя Францыска Скарыны, калі займалася арганізацыяй выставак беларускіх аўтараў у самым цэнтры Прагі.

— З'яўляюся куратарам чэшскай галерэі «Karas», якая пачынала сваю дзейнасць у Мінску. Цяпер мы рыхтуем у Празе дзявятую выстаўку. Лічу, мы былі першымі, хто прысвяціў свой праект святкаванню 500-годдзя кнігадрукавання. Выстаўка «Шляхам Скарыны ды Прагі» прайшла ў канцы 2016 года. Назва паказалася мне актуальнай, таму што нашы беларускія мастакі прыйшлі ў Прагу, як калісьці гэта зрабіў Францыск Скарына. Тады свае работы выстаўлялі чатыры мастакі з чатырох дынастый: Аракчэевых, Масленнікавых, Бархатковых і фотадынастыі Бацюковых. Выстаўка ладзілася ў Страгаўскім манастыры, недалёка ад месца, дзе надрукаваў Біблію на беларускай мове Францыск Скарына.

### З КРЫЛАМІ

Мастакі і скульптары неаднойчы (і незалежна ад круглых дат) прадстаўлялі творы, звязаныя з жыццём, дзейнасцю першадрукара: звярталіся да разнастайных стылістык і канцэпцый. Самы, бадай, вядомы вобраз Скарыны стварыў скульптар Алесь Дранец. Ідэя ўвекавечыць першадрукара ў бронзе рэалізоўвалася больш за пятнаццаць гадоў. Конкурс па стварэнні помніка быў абвешчаны ў 1989 годзе, прайшоў у 1990 — 1991 гадах. У выніку мы атрымалі скульптуру ля Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.



Помнік Францыску Скарыну ў Празе. Скульптар — Эдуард Астаф'еў.

**ДАТАпіс: Прага**

***Хваля святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання закранула і Прагу — знакавы для беларускай культуры горад, дзе выйшла ў свет першае скарынаўскае выданне — Псалтыр. Падчас пражскага Міжнароднага кніжнага кірмашу «Кніжны свет» асобны стэнд быў адведзены пад экспазіцыю выданняў, прысвечаных Францыску Скарыну і яго дзейнасці. Прадстаўнікі беларускай дэлегацыі ўсклалі кветкі да мемарыяльнай дошкі каля Пражскай ратушы і да помніка Францыску Скарыну ў Празе.***

Алесь Дранец прадставіў першадрукара маладым і шчырым. Выйграць конкурс аказалася няпроста: было шмат прэтэндэнтаў. Пасля перамогі ў конкурсе на скульптара пасыпалася шмат крытыкі, але мастак упэўнены, што да рэалізацыі задумы падрыхтаваўся добра:

— Я быў тады самым маладым канкурсантам, але мне пашчасціла выйграць заказ на стварэнне помніка ў сталіцы Беларусі і памятнай дошкі ў Празе, якая цяпер усталявана на Нацыянальнай бібліятэцы Чэхіі, — расказвае Алесь Дранец. — Лёс у маёй першай сур'ёзнай працы выдаўся нялёгкі: прайшло шмат гадоў з дня заканчэння конкурсу да ўсталявання ў жніўні 2005 года бронзавага помніка каля Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску. Праўда, гэтая акалічнасць дазволіла спакойна папрацаваць над увасабленнем ідэй. Цяпер часта спрачаюцца: ці падобны мой Скарына да правобраза? Пагадзіцеся, пра падабенства можна казаць толькі ў выпадку, калі ты ведаў чалавека асабіста, захаваліся нейкія яго візуальныя дадзеныя. Я ж паказаў легенду як сімвал роднай Беларусі. У яго час насілі мантыі, таму абраў менавіта гэтую вопратку. Больш за тое, я расправіў яе за спінай Скарыны, каб яна нагадвала два крылы. Каб нас ахоўваў крылаты геній. Кажуць, што Францыск нарадзіўся пры сонечным зацьменні, таму ў яго кнігах ёсць гравюры з выявай сонца і месяца. Я ўскінуў рукі першадрукара так, каб яны ва ўяўленні ўтварылі месяц, а яго аблічча і цела — сонца. У такіх знаках пастараўся сабраць усю архітэктоніку помніка, а потым ужо думаў пра падабенства з арыгіналам.

Разам з Алесем Дранцом у конкурсе ўдзельнічаў знакаміты беларускі скульптар Эдуард Астаф'еў, які таксама быў адным з асноўных прэтэндэнтаў на перамогу. Скульптар прапанаваў работу, канцэпцыя якой была ў тым, каб паказаць Францыска Скарыну разам з маленькім хлопчыкам, які трымае ў руцэ кнігу і быццам бы перадае яе народу. Аўтар хацеў адлюстраваць блаславенне, прадэманстраваць кнігу як сімвал аб'яднання. Ідэю не прынялі, але ж скульптар распрацаваў новы праект — яго скульптура ўпрыгожвае цэнтр Прагі.

### ПРАЗ ФЛЭШМОБ І СТРЫТ-АРТ

— Помнік Алеся Дранца ў Мінску і мой помнік у Празе былі прысвечаныя 500-годдзю з дня нараджэння Францыска Скарыны, — адзначае Эдуард Астаф'еў. — Перад тым, як мы наогул пачыналі рыхтавацца да конкурсу, група беларускіх скульптараў выправілася ў маленькае падарожжа па скарынаўскіх мясцінах. У гэтай вандроўцы ў нас сфарміраваўся канчатковы вобраз знакамітага беларускага дзеяча. Кожны з нас ведаў, якім чынам хоча адлюстраваць вялікую гісторыю ў адным чалавеку. Пасля таго, як я даведаўся, што мой помнік будзе стаяць у Празе, успрыняў гэта з гонарам. Мы з архітэктарам выляпілі постаць, яна невялікая для той мясцовасці — два метры трыццаць сантыметраў. Зрабіў працу я досыць хутка, але з-за развалу



Гравюра з кнігі Францыска Скарыны.

Савецкага Саюза тэрмін усталявання быў зацягнуты і помнік прастаяў у нас на скульптурным камбінаце каля пяці гадоў… Але ў кастрычніку 1996 года яго ўсё-такі прывезлі ў Прагу. Там Францыск Скарына прадстаўлены з пяром і кнігай. Гэта азначае, што ён трансфармаваў пісьмовую культуру ад пяра да друкаванага слова. Я пастараўся пабудаваць лініі яго постаці па самым вядомым графічным партрэце, вывучыў па кнігах вопратку, даведаўся, як павінен быў выглядаць яго галаўны ўбор, правёў вялікую даследчую працу. У Празе з маім помнікам было шмат смешных сітуацый. Напрыклад, некалькі разоў скрадалі з рукі першадрукара пяро. Гістарычную мадэль помніка я зрабіў крыху пазней, і сёння яна экспануецца ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь.

Як адзначае старшыня Саюза мастакоў Беларусі Рыгор Сітніца, усталяванне помніка беларускага скульптара ў Празе — падзея гістарычная. Імя Эдуарда Астаф'ева гучыць на зямлі, дзе была надрукавана Біблія, і гучыць таму, што праслаўляе першадрукара. Своеасаблівы калазварот, дзе кожны займае сваё месца. З моманту ўсталявання помніка беларускія мастакі, якія прыязджаюць у Прагу, абавязкова робяць фотаздымак з помнікам, дзе быццам бы вітаюцца за руку з Францыскам Скарынам, а пасля робяць копію фота на ўспамін аўтару скульптуры. Эдуард Астаф'еў жартуе: гэта ўжо не проста традыцыя, а флэшмоб з працягам у дваццаць год.

Асоба Францыска Скарыны карыстаецца вялікай папулярнасцю ў творцаў, якія займаюцца стрыт-артам. Так, мінскі малады мастак Дзмітрый Dream цягам некалькіх год распаўсюджвае нацыянальную культуру з дапамогай трафарэтаў: малюе на сценах розных будынкаў партрэты вядомых беларусаў. Францыска Скарыну маляваў не раз. Мастак кажа, што ў век сучасных тэхналогій падручнікі не заўсёды могуць прыцягнуць падлетка, а вось форма падачы праз графіці працуе: дзяцей ды і дарослых прываблівае выява чалавека, спачатку яны фатаграфуюцца з ёй, а пасля пачынаюць шукаць інфармацыю на інтэрнэт-рэсурсах. І сутнасць не ў тым, што пра Скарыну шмат што вядома з дзяцінства, але ж самое з'яўленне на шэрым будынку выявы першадрукара — адметны факт, які сведчыць пра папулярнасць асобы і падкрэслівае актуальнасць справы асветніка ў наш час.

**Вікторыя АСКЕРА**

**Пытанне, ці быў Скарына ў Маскве, ужо не гучыць надта актуальна, калі ўявіць, як яго ў той час маглі там прыняць. Адчуванне таго, які агонь ён насіў у сабе, магло б стаць лепшым тлумачэннем тым фактам яго жыцця, што падаюцца нам незразумелымі. Усё гэта ёсць у п'есах, якія з'явіліся дзякуючы рэспубліканскаму конкурсу «Францыск Скарына і сучаснасць» (п'есы змешчаны ў зборніку), правядзенне якога ініцыяваў Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі ў супрацоўніцтве з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і пры падтрымцы Беларусбанка, і ў двух гучных спектаклях, што ўбачылі свет. І пастаноўка Саўлюса Варнаса «Скарыны» паводле Мікалая Рудкоўскага ў Магілёўскім абласным драматычным тэатры, і спектакль Аляксандра Гарцуева «Кар'ера доктара Рауса» (па п'есе Віктара Марціновіча) у РТБД аказаліся надзвычай рэзанснымі. Сёння спрабуем разабрацца: якія матывы кіравалі стваральнікамі, у чым карысць звароту да гістарычных асоб у тэатры ў наш час? І ці можна праз гісторыю зацікавіць людзей тэатрам, і наадварот? Прапануем думкі экспертаў і стваральнікаў спектакляў.**

# УсВЯДОМліваем

**Алена Мальчэўская, тэатральны крытык, член журы конкурсу «Францыск Скарына і сучаснасць»:**

— Беларускі тэатр перажыў «гістарычны выбух» у 1990-я гады. У значнай ступені гэта былі п'есы, што адкрывалі гледачам невядомыя, малавядомыя, неасэнсаваныя і забароненыя старонкі мінулага, выводзілі на сцэну гістарычных Асоб. Потым на некаторы час цікавасць да гістарычных тэм у тэатры спала: у нас выявілася шмат праблем з сучаснасцю. На маю думку, цяпер інтарэс пакрысе аднаўляецца, але ў іншай якасці. У 2010-я ўжо неактуальна тлумачыць гледачам сутнасць асноўных падзей і значнасць імёнаў гераічнай мінуўшчыны. Актуальным пытаннем становіцца барацьба з гістарычнымі стэрэатыпамі, пэўнай плоскасцю гістарычных постацей у грамадскай свядомасці. Яскравы прыклад — п'есы «Скарына» Мікалая Рудкоўскага і «Кар'ера Доктара Рауса» Віктара Марціновіча, якія сталі пераможцамі конкурсу «Францыск Скарына і сучаснасць».



**Саўлюс Варнас, галоўны рэжысёр Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра, пастаноўшчык спектакля «Скарына»:**

— Я прапанаваў Мікалаю Рудкоўскаму напісаць п'есу для будучай пастаноўкі, патлумачыў, што мяне цікавіць у жыцці Скарыны. Мікалай прапанаваў літаратурны варыянт, але я падышоў да тэксту свабодна. Тэма мне блізкая: жыву ў Вільнюсе за 20 крокаў ад дома, дзе былі яго друкарскія станкі… У першую чаргу мне быў цікавы яго асобасны пачатак: як ён выспяваў. Я глыбока перакананы, што тыя асобы, якія больш за ўсё далі краіне, часцей за ўсё выходзілі з асяродка, дзе сувязь з прыродай цесная, бліжэй да зямлі, ёсць большае адчуванне таго, што тоеснае ў жыцці. Хоць я разумею, што былі часы, калі Полацк меў большае значэнне як культурны цэнтр, чым ужо ў часы Скарыны.

Але Скарына — гэта чалавек, які адбыўся. Ён ішоў за сваёй марай. Мне здаецца, гэта вельмі важна ў цяперашні час, калі мы залежныя ад культурнага асяродка, у якім жывём, у якім склаліся пэўныя меркаванні. Мы часта жывём не сваім жыццём. А ён, мне здаецца, быў верны сваім унутраным адчуванням. Мне было цікава прасачыць, як ён прайшоў гэты шлях, што значылі яго розныя сустрэчы. Верагодна, у той час ён мог належаць да аднаго з таемных таварыстваў, што мяне таксама цікавіла.

Ці ўцягваем гледача, думаю, гэта залежыць ад таго, як пастаноўка зроблена, якая размова сёння ідзе, на якой тэатральнай мове. Ці ёсць кантакт-дыялог... З водгукаў мяне здзівіла, што педагогаў са школы бянтэжыць, напрыклад, дзяўчына ў пеньюары, нібыта шмат эротыкі ў спектаклі, хоць пра гэта казаць смешна, калі тэлебачанне нават у дзённы час можа паказваць значна болей адкрытасці. Мне хацелася раскрыць любоў чалавека ў шырокім сэнсе гэтага слова: каханне да жанчыны, яго любоў да абранай прафесіі, да сваёй ідэі. Чыста гістарычнае часам успрымаецца гледачом як нешта чужое, далёкае. Складана прыцягнуць толькі тым, што гэта гісторыя. Зусім іншае — праз Скарыну прывесці да таго, што сёння можа быць актуальна, што можа адгукнуцца ў душы, каб чалавек зразумеў: вось тут мне баліць ці я павінен спыніцца, каб разабрацца ў сабе. Таму што ўсё, што мы пражываем, — спроба апраўдаць сваё існаванне на зямлі, упісаць сябе ў гэты час. І аддаць тое, што праз цябе можа прыйсці ў гэты свет.

**Віктар Марціновіч, пісьменнік, аўтар п'есы «Кар'ера доктара Рауса»:**

— Скарына — вельмі характэрная для беларускай гісторыі постаць. Ён класічны «чалавек памежжа». Драмы ягонага жыцця адбываліся менавіта з-за таго, што краіна нашая месціцца паміж Усходам і Захадам, на месцы сустрэчы дзвюх культур — праваслаўнай, кірылічнай, і заходняй, лацінскай. У ягонай біяграфіі я пабачыў тыповыя павароты, якія пазней паўтараліся ў лёсах шмат якіх выбітных беларусаў. Пры гэтым мне нецікава было ствараць яшчэ адну (якую па ліку!) гістарычную п'есу пра Скарыну, і я прыдумаў гэты незвычайны расповед пра сучасны свет, у якім проста не прыдумалі кніг...

Мне хацелася, каб у першых актах гледачу было весела, у другім — сумна, бо фінал жыцця пана Францыска я лічу менавіта драмай. Але ягоныя кніжкі засталіся, і менавіта ў гэтым — у здольнасці кнігі трываць у часе, пераживаць людзей, якія яе стварылі, — я бачу аптымізм Скарынавай сітуацыі.

Калі гаварыць пра тэатр, то, на мой погляд, ягоная сіла не ў тым, «каб нешта тлумачыць людзям», — з гэтым выдатна спраўляецца кніга. Перавага тэатра ў тым, каб нешта паказаць людзям, змясціць іх у цэнтр дзеі, прымусіць забыцца на тое, кім гледачы ёсць. Таму тэатр часцяком уздзейнічае мацней за тэкст.



# ДаСЛЕДУЕМ?..

**Анатоль Бутэвіч, пісьменнік, намеснік старшыні Беларускага фонду культуры, член журы конкурсу «Францыск Скарына і сучаснасць»:**

— Конкурс парадаваў. Здзівілі вынікі, што за кароткі тэрмін было напісана больш за 30 твораў. Калі казаць пра больш шырокае ўвасабленне постаці Скарыны, то тут могуць быць розныя пазіцыі, думкі. Да таго, што паставіў Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі ў спектаклі «Кар'ера доктара Рауса», ставіцца можна па-рознаму, але пры гэтым ёсць погляд, які дасць вынік. Не трэба мысліць прамалінейна: ён герой, і не можа быць ніякіх іншых падыходаў. Але ж гэта надзвычай загадкавая постаць нават дагэтуль.

**1.** Пра гэта сведчаць жыццёвыя факты: то ён быў асабістым сакратаром у біскупа (спрачаюцца, хто ён па веравызнанні: католік, праваслаўны ці пратэстант), то служыў у аднаго караля, які быў праціўнікам другога, а потым раптам апынуўся з іншага боку. Некаторыя прапануюць версію, што ён быў з разраду вужоў, але ж гэтыя факты патрабуюць даследавання, бо такая асоба проста так да караля не трапіць. І калі на Скарыну будзе шырокі погляд — не толькі як на першадрукара, — і нават такі нетрадыцыйны, як паказаў тэатр беларускай драматургіі, можа, ў грамадстве будзе большая цікавасць да асоб. Рабіць з кагосьці ікону, напэўна, несправядліва. Шырокі сцэнічны погляд дазваляе зрабіць са Скарыны жывога чалавека, не адмаўляючы таго гераічнага, што ён зрабіў. Таму што па сённяшніх мерках за такія пераклады не толькі Дзяржаўную прэмію варта было б даваць, але званне героя краіны: унікальная праца з усіх пазіцый — ад змястоўных аналітычных падыходаў у прадмовах да ілюстрацый, перакладаў ды іншай працы па арганізацыі справы. Трэба ўлічваць факт, што гэта было зроблена ў Еўропе, якая карысталася лацінскім шрыфтам. А ён працаваў з кірыліцай у той Еўропе, якая спавядала каталіцызм, значыць, адразу была скіравана насць на нашыя землі. І каб гэта здзейсніць, патрабавалася мужнасць. Калі разглядаць яго працу як камерцыйны праект, хто мог даць гарантыю, што ўсё гэта акупіцца? Але справа была зроблена. І дзякуй Богу, што яна ў нашай свядомасці пачынае абрастаць чалавечымі рысамі. Сцэна — той арганізам, што дазваляе больш шырока знаёміцца з гісторыяй. Паглядзіце, колькі гадоў у Купалаўскім тэатры ідзе «Чорная панна Нясвіжа» Аляксея Дударава, і, можа, гэта паспрыяла таму, што Барбара Радзівіл стала больш таямнічай і прывабнай для нас, а разам з ёй — і тая частка жыцця нашай радзімы.

**2.** Калі мы глыбока імкнёмся спазнаць Скарыну, то разумеем, што таго, чаго пра яго не ведаем, нават больш, чым таго, што вядома. Беларусь мае выбітнага ва ўсіх іпастасях — ад перакладчыка да кнігавыдаўца — чалавека, мы павінны быць больш зацікаўленыя, каб пра яго ведалі і мы самі, і іншыя. Далёка не кожная еўрапейская краіна можа пахваліцца 500-годдзем нацыянальнага кнігадрукавання. Але калі мы зірнём на постаць самога Скарыны, то ён і яго дзейнасць да гэтага часу загадкавыя. Пра гэта сведчаць і факты: за 3 гады выдадзена 23 кнігі. Мы некалі жартавалі з дырэктарам і галоўным рэдактарам «Мастацкай літаратуры», што нават буйное выдавецтва не здолела б і сёння перакласці і выдаць столькі. Значыць, альбо Скарына працаваў не адзін, а з вялікай арцеллю, і не адзін ці не тры гады, калі выдаваліся кнігі, а рыхтаваўся загадзя. А ён мала таго, што перакладаў, яшчэ пісаў прадмовы для твораў. І арганізоўваў працэс. Скарына — гэта, напэўна, адзіны аўтар перакладаў (нават без духоўнага сану), партрэт якога аказаўся змешчаны ў Бібліі. Напэўна, унікальны выпадак у біблейскай справе. І гравюры ў яго кнігах — таксама загадка. Усё яшчэ трэба разгадваць і даследаваць.

**3.** Даследчую працу трэба рабіць не толькі ад юбілею да юбілею, а нястомна-няспынна. Ёсць даследчыкі Скарыны ў Маскве, наогул у Расіі, у іншых краінах, ёсць краіны, якія звязаныя са Скарынам. Нам бы ўзяць — ці Інстытуту гісторыі, ці Інстытуту літаратуры Акадэміі навук — і аб'яднаць усіх навукоўцаў, скласці «дарожную карту», што можна было б каму даследаваць, магчыма, быў бы большы плён. Таму што кірункаў у скарыназнаўстве шмат. Як і загадак асобы Скарыны. Нават даты нараджэння і смерці дакладна не ўстаноўленыя, і месца пахавання невядомае.

Дзеля пошуку месца пахавання Францыска Скарыны летась па ініцыятыве Беларускага фонду культуры створана грамадская ініцыятыва, якую я ўзначальваю. Сёння да яе далучыліся і вучоныя, і святары, і ўвогуле ўсе неабыякавыя. Гэтую ініцыятыву падтрымлівае Міністэрства культуры і Міністэрства замежных спраў Беларусі. Мы былі ў Празе, кантактавалі з нашым пасольствам, з мясцовымі даследчыкамі. Рабілі пэўныя захады ў Празе, ездзілі ў Крумлаў, дзе сын Скарынаў жыў. Пошук можа даць плён: цяпер магчымасці ідэнтыфікацыі большыя, чым раней. Магчыма, знойдзем месца, дзе можна будзе аддаць Скарыну даніну пашаны.

**ДАТАпіс: Варшава**

***Перасоўная выстаўка «Пяць стагоддзяў беларускага кнігадрукавання», арганізаваная Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, выправіцца ў Варшаву. Напярэдадні НББ ужо прывозіла для палякаў выстаўку, прысвечаную першадрукару ўсходніх славян Францыску Скарыну: асноўнай тэмай Дзён славянскай культуры і пісьменства «Пролаг», якія ладзяцца ў польскім горадзе Бельску-Падляскім, стала 500-годдзе беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Наблізкэнне да беларускай культуры адбылося праз прэзентацыю строяў Н. Кузняцовай, зробленых з нацыянальным каларытам, выступленне беларускіх творчых калектываў і прагляд фольк-рок-оперы «Усяслаў Чарадзей».***

У аб'ектыве

# ПА-ЗА ЧАСАМ

## Што яшчэ здымалі пра першадрукара?

**1. Іграваое.** У 1969 годзе Барыс Сцяпанаў зняў адзіны ў Беларусі ігравы фільм пра нашага вядомага суайчынніка. «Я, Францыск Скарына» — гэта гісторыка-біяграфічная стужка пра асветніка. Сюжэтная лінія адлюстроўвае некаторыя біяграфічныя звесткі славутага першадрукара: Скарына паступае ва ўніверсітэт, змяняе месцы жыхарства па ўсёй Еўропе, атрымлівае ступень доктара — здавалася б, нічога новага. Але неверагодна дынамічны сюжэт і выдатная акцёрская работа (дарэчы, ролі братоў Францыска і Івана Скарынаў выканалі Алег і Расціслаў Янкоўскія) ілюструюць, як гістарычная асоба становіцца сапраўдным культавым персанажам для сучаснікаў. Вядома ж, не абышлося і без натурных здымкаў Прагі, дзе жыў Францыск Скарына, — падарожжа гістарычнае, лірычнае, геаграфічнае і асобаснае вылілася ва ўнікальны аповед пра жыццё і каханне першадрукара.



**2. Дакументальнае.** На студыі «Летапіс» Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» стужка пра першадрукара была знятая яшчэ на сыходзе савецкай эпохі. У 1989 годзе на экранах з'явіўся «Францыск, сын Скарынін». Гэтым фільмам Станіслава Гайдука рыхтаваліся адзначыць юбілей — 500-годдзе з дня нараджэння Францыска Скарыны. Фільм вялікі па хранаметражы — 60 хвілін. Сцэнарый Алеся Петрашкевіча, рэдактар — Уладзімір Мароз. Гэтая стужка эпічная і біяграфічная. Здымачная група праўдзіла экспедыцыю па месцах, якія тычацца асобы першадрукара: былі і ў Падуі, і ў Вітэнбергу, дзе Скарына, магчыма, сустракаўся з Марцінам Лютэрам, у Кёнігсбергу, Празе, Вільнюсе, Кракаве. Стужка давала ўяўленне пра геаграфію жыцця Францыска Скарыны.



Тая ж ідэя была ў аснове зусім новага дакументальнага фільма «Францыск Скарына. Чалавек свету», які ажыццявіў Алег Лукашэвіч у рамках праекта «Шляхамі Скарыны з Белгазпрамбанкам».

**3. Анімацыйнае.** Да нядаўняга часу ў беларускай анімацыі не было стужкі пра Скарыну. Але малады мультыплікатар Глеб Куфцерын прысвяціў першадрукару анімацыйную апытанку, якая стала лейтматывам скарынаўскіх праектаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і газеты «ЛіМ» (ролік можна паглядзець на нашай інтэрнэт-старонцы).



Дарэчы, аўтар ужо звяртаўся да тэмы культуры ў сваёй творчасці: на сёлетнім «Лістападзе» ў нацыянальнай конкурснай праграме ўдзельнічала стужка Глеба Куфцерына «Шэкспір. Тут». Яго выказванне пра Скарыну — гэта збор меркаванняў людзей, якіх кожны з нас бачыць на вуліцах. Гэта падкрэсліваюць дакументальныя кадры: анімацыйныя персанажы існуюць на ўмовах рэальнага асяродка. Усе маюць нейкае ўяўленне пра першадрукара і могуць падзяліцца ім у адказ на пытанне: «А хто для вас Францыск Скарына?». Героі фільма ўзгадваюць і помнік асветніку ў Полацку, і яго ўнёсак у друкарскую справу, разважаюць пра сімвалізм асобы для краіны.

— Ідэя стварэння роліка нарадзілася дзякуючы намесніку дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесю Сушу, — удакладняе Глеб Куфцерын. — У культуры і медыя персона Скарыны выглядае надта забранзавелай, і амаль няма лёгкіх і вясёлых выказванняў пра яго, якія б кранalі любога чалавека. Адсюль абраныя сродкі: рэальнае апытанне на вуліцах, героі якога заменены маляванымі персанажамі. Такі падыход мне дазволіў пэўныя свавольствы: уключыць у апытанне нават самога Скарыну. У выніку пацвердзілася маё адчуванне, што кожнаму беларусу ёсць што сказаць пра Францыска Скарыну.

**ДАТАпіс: Парыж**

***Дамінантнай тэмай нацыянальнай экспазіцыі Беларусі на Парыжскай кніжнай выстаўцы стала 500-годдзе беларускага кнігадрукавання. Дэлегацыя беларускіх кнігавыдаўцоў прэзентавала новыя кнігі наведвальнікам кніжнай выстаўкі, а таксама перадала выданні Інстытуту ўсходніх моў і культуры.***

**Некалькі тыдняў таму «Беларусьфільм» прадставіў дакументальную стужку «Першадрук» — прысвячэнне асобе і справе, што мы атрымалі дзякуючы асобе.**

Якое сёння ўяўленне пра Францыска Скарыну? Першадрукар такі, як на партрэтах у надрукаваных ім жа кнігах (а гэта было з'явай беспрэцэдэнтнай!). Прыгожы, у берэце, з пяром у руцэ, а вакол — кнігі ды сімвалы. Між іншым, тое, што мы прымаем за берэт, насамрэч таксама магло б быць сімвалам: ёсць гіпотэза, што гэта павязка, якую асветнік зняў з вачэй, атрымаўшы Божую мудрасць і пазнаўшы свет.

Ці глыбока мы разумеем Скарыну і што ведаем пра яго апроч агульнай інфармацыі? Стваральнікі фільма «Першадрук» — рэжысёр Ігар Чышчэня, сцэнарыст Уладзімір Мароз і аператар Аляксандр Акавіцкі — вырашылі адхіліцца ад візуальных увасабленняў, наогул спрабавалі не згадваць вобраз Скарыны: усё ў стужцы пабудавана на пачуццёвым успрыманні асветніка і яго справы. І хоць імя першадрукара лунае ў паветры, а яго помнікі і выявы можна сустрэць у гарадах, якім Скарына прысвяціў пэўныя адрэзкі свайго жыцця, асноўны акцэнт стваральнікі фільма зрабілі на кнізе.

Так, спачатку было Слова. Скарына гэтае Слова зрабіў справай жыцця — цэнну кнігі для свайго народа на роднай мове. Складана ацаніць гэтую працу з пункту гледжання людзей XVI стагоддзя, але для нашых сучаснікаў яго справа неацэнная. А магчыма, і дагэтуль недаацэненая. Пры тым, што шмат у якіх пытаннях культурны кантэкст існуе па-за часам (у дачыненні да Беларусі). Напрыклад, Біблія, выдадзеная Скарынам, не мела дабраславенняў ні адной з царкваў: кніга выдавалася для ўсіх вернікаў. Яшчэ ў тыя часы Скарына разумеў, што галоўнае — яднанне людзей праз Бога, і, напэўна, прадчуваў, што яго радзіма можа наблізіцца да мірнага суіснавання хрысціян розных канфесій (магчыма, бачыў наперад). Дарэчы, кананічнага перакладу Бібліі (зацверджанага царквой) на беларускую мову ў нашай краіне няма дагэтуль, але Новы Запавет павінен быць надрукаваны сёлета — у перакладзе аднаго з герояў фільма «Першадрук» мітрафорнага протаіерэя Мінскага Свята-Духава кафедральнага сабора і кандыдата багаслоўя айца Сергія Гардуна, які працягвае традыцыю Скарыны цяпер.

Праз неверагодныя пейзажы Полацка, Прагі, Кракава, Вільнюса мы трапляем не ў гісторыю, а ў сучаснасць. Тое, што мы бачым на экране, паказана ў запаволенай здымцы, але няма адчування, што вяртаешся ў XVI стагоддзе. Гарады, дзе калісьці жыў Скарына, плённа развіваюцца, але памятаюць крокі першадрукара: і Карлаў мост, і плошча Кракава, і вуліцы Полацка і Вільнюса. Для іх, магчыма, Францыск Скарына — чалавек з гісторыі. Але не для нас. Пейзажы, муры і нават атмасфера еўрапейскіх цэнтраў нагадваюць беларусам, наколькі выбітная і таленавітая асоба прагнула развіцця нашай зямлі.

Хочацца адчуць сябе на месцы першадрукара? Вось друкарскі варштат, які аднавіў гісторык і даследчык Уладзімір Ліхадзедаў. Каб паглыбіцца ў гісторыю асобы, варта пачуць думкі кандыдата культуралогіі і намесніка дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алеся Сушы. Каб адчуць каштоўнасць кнігі, трэба пазнаёміцца з загадчыкам аддзела рэдкіх кніг Расійскай нацыянальнай бібліятэкі Мікалаем Нікалаевым. Атрымаць усё і адразу дазваляе якраз «Першадрук»…

Здаецца, мы атрымалі дакументальнае кіно, якое можна не толькі паказваць на школьных уроках гісторыі, але і зрабіць рэкламай цывілізацыйных дасягненняў беларусаў. Кажуць, што час нашмат мудрэйшы за памяць: ён захоўвае не толькі дакладна, але і аб'ектыўна. «Першадрук» у гэтым сэнсе — нібыта час. Тут няма поўнай біяграфіі першадрукара і гэта не даведнік па працы Скарыны. Але ёсць нешта нашмат больш каштоўнае: кожны глядач, убачыўшы, як хістаюцца ад ветру аркушы з толькі што надрукаванымі роднымі словамі, зразумее ўсю веліч асобы, вядомай нам яшчэ са школьных гадоў. Асобы, што існуе па-за часам.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**



*Кадр з фільма «Першадрук» (рэж. І. Чышчэня).*

**Ігар Чышчэня, рэжысёр:**

— Я не спрабаваў паказваць жыццёвы шлях Францыска Скарыны, таксама не раскрываў яго як асобу. Для мяне самым галоўным было прадэманстраваць значнасць дасягненняў гэтага дзеяча не толькі для яго часу, але і для сучаснасці. Менавіта таму і назва датычыць першай кнігі, а не чалавека. Асоба першадрукара, напэўна, была на другім плане. Зрэшты, цяжка вызначыць, які план першы, а які — другі. Мне заўсёды здаецца, што знятая стужка атрымліваецца менавіта такой, якой я яе ўяўляў. А пасля, калі пачынаеш узгадваць дэталі задумы, разумееш, што кіно зусім іншае, але ў «Першадруку» амаль усё супала: прынамсі, настрой і дух фільма менавіта такі, якім я хацеў бачыць. У стужцы, сцэнарый да якой піша не сам рэжысёр, вельмі важна зразумець задуму аўтара і знайсці з ім агульную мову, таму трэба, каб кіно ў выніку задаволіла ўсіх стваральнікаў. Калі рыхтаваўся да здымак, вельмі шмат чытаў: гэта былі і кнігі пра Скарыну, і кнігі пра Сярэднявечча — пра паляванне на вядзьмарак, пра алхімікаў і манахаў, вядома, кнігадрукаванне. З усяго прачытанага асабліва адзначу «Галактыку Гутэнберга». Менавіта па гэтым творы я зразумеў значэнне вынаходніцтва кнігадрукавання для свету, убачыў, як яно фарміравала нацыі, — гэта самае вялікае і неверагоднае ўражанне. Першапачаткова мы не збіраліся ствараць пастаноўку, цвяроза суаднеслі сцэнарый, бюджэт і магчымасці, таму ў фільме шмат пейзажаў: хацелі зрабіць кіно не толькі якасным, але і вытанчаным, каб быў заўважны тэлепорт у гісторыю, у мінуўшчыну.

**Уладзімір Мароз, сцэнарыст:**

— Калі я чытаў пра Скарыну перад здымкамі, то знайшоў адзін факт, пра які не ведаў: калі хтосьці збіраўся абараніць доктарскую ступень у Падуанскім універсітэце, трэба было ўлічваць тую сістэму: камісіі з 15-16 прафесараў кандыдат павінен заплаціць пэўную суму грошай і зрабіць фуршэт, што каштавала вялікіх выдаткаў. У дакуменце, што пацвярджаў атрыманне Скарынам доктарскай ступені ў Падуанскім універсітэце, адно са слоў было перакладзена як «бедны». А як гэта можа быць, калі Скарына вытрымаў «іспыт» банкетам? Да таго ж трэба было на нейкія грошы друкаваць кнігі. Гэты факт яшчэ раз засведчыў: нельга глядзець на мінуўшчыну з пазіцыі сённяшняга дня.

Падчас здымак уяўленне пра Скарыну не змянілася, але я зразумеў, што мы недаацэньваем тое, што маем, у прыватнасці справу і постаць асветніка. Гэта асоба з разраду геніяў — і па справе, па светаадчуванні. Галоўная думка, якую я хацеў пранесці ў фільме, — што Скарына сваім выданнем Бібліі заклікаў хрысціян да адзінства: нідзе не было пазначана, для якой канфесіі гэтая кніга, таму што выданне было «для люду простага». Мне падалося вельмі дарэчным змясціць у стужку эпізод з храмам пад Докшыцамі, куды ходзяць маліцца каталіцкія і праваслаўныя вернікі. Гэты эпізод зусім не выпадковы, у ім гаворыцца пра яднанне людзей, пра жыццё ў любові. Напэўна, Скарына яшчэ тады адчуваў гэтую асаблівасць беларускай зямлі і імкнуўся паспрыяць таму, каб людзі любілі адзін аднаго, ядналіся незалежна ад веравызнання. Пасля працы над фільмам я ўсвядоміў больш яскрава, што мы яшчэ ў часы Скарыны жылі ў еўрапейскай прасторы, — і не толькі жылі, а нават ішлі ў першых шэрагах. У тым ліку дзякуючы перакладу Бібліі першадрукара. Моцны акцэнт у фільме быў зроблены на кнігу, але я б сказаў, што гэта кіно пра моц духу, пра нас у тыя часы. І ёсць з каго браць прыклад. Не трэба гаварыць пра справу Скарыны як пра гісторыю, бо яна працягваецца і сёння.



## Міхаіл Фінберг:

# «КРАНАЕ ДА СЛЁЗ...»

**Гэтымі днямі, на пачатку чэрвеня, цэнтрам культурнага жыцця становіцца Маладзечна.**

Пайшло ўсё з 1993 года, калі ўпершыню адбыўся Нацыянальны фестываль песні і паэзіі ў Маладзечне. Грандыёзны эмацыянальны ўздым, што перажыў адзін горад, распаўсюдзіўся на ўсю Беларусь, якая зрабіла адкрыццё: цудоўныя ў нас песні — ад цёплых матчыных да прыгожых твораў на словы класічных паэтаў, што ўжо сталі хітамі, але ж і сучасныя можна спяваць усёй краінай. Галоўнае, каб яна ведала і разумела: побач з намі жывуць творцы — паэты і кампазітары, — якія ў песні могуць выкласці тыя думкі і пачуцці, якімі людзі жывуць цяпер. Выкласці зразумела, на роднай мове, праз блізкую мелодыю ды інтанацыю. Беларуская песня можа гучаць шырока ў радыёэфіры і ў канцэртах тэлебачання, што пацвярджалі тады трансляцыі канцэртаў галоўнага песеннага фестывалю па галоўным канале айчыннага тэлебачання…

Час прайшоў. Маладзечна ўсё так жа працягвае рабіць фестываль, які мае статус нацыянальнага. Здавалася б, малы жанр — песня, але сапраўды яркая мелодыя ў спалучэнні са словамі здольная западаць у душу, круціцца ў думках, даючы чалавеку ментальныя арыенціры. І нават лёгкая, здавалася б, папулярная песня можа стаць стратэгічным рэсурсам у фарміраванні нацыянальнай культурнай прасторы. Пацверджана неадночы песнямі, створанымі на словы Максіма Багдановіча, Янкі Купалы і Якуба Коласа, Адама Русака... А што цяпер? Ці з'яўляюцца ў нас новыя шлягеры на беларускай мове, якія можна спяваць усёй краінай? Няўжо, каб іх пачуць, трэба ехаць у Маладзечна?

Сёлета асноўны акцэнт у Маладзечне зроблены на асобах паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа: адзначаецца 135 гадоў з дня нараджэння беларускіх класікаў. Пра асаблівасць праграмы сёлетняга фестывалю распавядае яго мастацкі кіраўнік, галоўны дырыжор Нацыянальнага канцэртнага аркестра, народны артыст Беларусі Міхаіл Фінберг.

**— Міхаіл Якаўлевіч, вы не першы раз прысвячаеце праграмы нашым выдатным паэтам Янку Купалу і Якубу Коласу. У чым адметнасць той, што прагучыць са сцэны маладзечанскага амфітэатра сёння?**

— Ганаруся, што змог падрыхтаваць праграму «Купала і Колас. Вы нас гадавалі». Гэта праграма, якая яшчэ засведчыць: Беларусь мае цудоўных класікаў у паэзіі, якія вельмі тонка адчувалі радзіму, разумелі мары і клопаты сваіх землякоў. Таму праграму «Купала і Колас. Вы нас гадавалі» рыхтавалі сур'ёзна. Я шчаслівы, што ў нашым агульным ансамблі разам з салістамі, выканаўцамі будуць працаваць выдатныя беларускія артысты Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы: народны артыст Беларусі Віктар Манаеў і маладая актрыса Валянціна Гарцуева. Манаеў, на мой погляд, — выдатны беларускі артыст, які цудоўна ведае Купалу, можа на памяць дэкламаваць шмат вершаў (яны яму блізкія), глыбока адчувае гэтую паэзію. А як ён валодае гукам! Таксама і Валянціна Гарцуева. Яны адразу адгукнуліся на маю просьбу. Кранаюць да слёз гэтыя словы. Я ўсцешаны, што атрымалася праграма, на якую трэба сур'ёзна звярнуць увагу.

Гэта хутчэй музычны спектакль. Аснова — драматургічнае дзеянне, якое эмацыянальна падкрэсліваюць песні. Кожная з гэтых песень — цудоўны твор. У нас высокапрафесійныя аранжыроўкі. Да таго ж песні выконваюцца прафесійнымі спевакамі. Хвалююся, што канцэртная праграма на вольным паветры, але, якое б ні было надвор'е, мы ўсё зрабілі ад сэрца.

У праграме 23 песні, 90 працэнтаў — новыя творы. Адзін з аўтараў — кампазітар Ігар Палівода. Музыка, якая не гучыць нідзе, таму што ёсць аўтарскія правы, ёсць спадкаемцы. Але наш аркестр набыў гэтыя песні. У іх ёсць філасофія: калі Палівода пісаў, укладваў у музыку адчуванне таго часу. Акрамя таго, шэраг новых твораў напісаў кампазітар Эдуард Зарыцкі. З ім мы працавалі шмат гадоў. Цяпер стварылі праграму на словы Рыгора Барадуліна, якая будзе адкрываць наш новы канцэртны сезон.

**— Зноў зварот да класікі. Пры тым, што песні на словы Купалы і Коласа шырока гучалі раней, некаторыя з іх ужо жывуць не адно дзесяцігоддзе. Ці гатовыя нашы кампазітары пісаць сучасныя песні на іх вершы? Ці могуць іх вершы гучаць сучасна ў песнях?**

— Янку Купалу і Якуба Коласа лічу вельмі сучаснымі паэтамі. У іх словах настолькі глыбокі сэнс, закладзена нават парадыгма беларускага жыцця, што вызначыла яго сэнс на мінулае стагоддзе, і, можа быць, мы дагэтуль не асэнсавалі і не рэалізавалі ўсё, на што былі здольныя і што павінны былі зрабіць, каб умацавацца як нацыя. Яны вызначылі рух, патлумачылі, навошта: людзьмі звацца. Я адразу адчуваю, што я нарадзіўся ў Беларусі і што жыву ў Беларусі. Мой тата так казаў. Мой тата гаварыў па-беларуску. І рос з гэтай мовай: калі прыехаў у Мінск, то вельмі вылучаўся па гаворцы. Уволпотым штуршок да ўдасканалення і моўную практыку мне даў Караткевіч. З Караткевічам я працаваў, калі ён ужо моцна хварэў, але пісьменнік тлумачыў, як важна пры выкананні песень правільна вымаўляць ці доўжыць гукі: беларуская мова спеўная, гэта трэба ўмець перадаць.

Дзякуючы стасункам з нашымі паэтамі я шмат што зразумеў. Калісьці Генадзь Бураўкін мне сказаў: калі хочаш быць беларускім музыкантам, то павінен палюбіць беларушчыну. Я так і рабіў усё жыццё. У нашым калектыве ўсе ўзгадаваныя такім поглядам. Артысты-вакалісты — прафесіяналы, многія маюць званні лаўрэатаў. Яны разумеюць, што павінны слова даносіць дакладна, каб яно кранала, каб пасля канцэрта людзі неслі яго з сабой. Мы падрыхтавалі 38 праграм на словы беларускіх паэтаў: Янка Купала і Якуб Колас (тройчы), Максім Багдановіч, Адам Міцкевіч, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін...

**— Праграмы гэтыя прагучаць аднойчы ў канцэртах, але ці ёсць магчымасць да іх вяртацца — праз тэлебачанне, запісы?**

— ...Мы робім сваю справу. І спадзяёмся, што нацыянальны прадукт павінен быць запатрабаваны ў сваёй краіне. Але атрымліваецца, што нашы праграмы на словы айчынных паэтаў — адзінкавы прадукт (хоць гэта і не вельмі добрае слова ў дачыненні да творчасці), што можа прагучаць толькі ў жывым выкананні. У нас было шмат адметных праграм, якія не выклікалі цікавасці ў тэлебачання. Але калі мы ездзім з канцэртамі па Беларусі, адчуваем, што людзям гэта патрэбна. Праграма павінна жыць сваім жыццём. Яна павінна гучаць у розных гарадах і буйных паселішчах, і мы з задавальненнем едзем да людзей: усе грама-дзяне Беларусі павінны мець магчымасць далучацца да сваёй культуры. Для нас не існуе гарадоў маленькіх ці вялікіх. Памятаю адзін канцэрт з праграмай на словы Адама Русака: прыйшлі жанчыны, па руках бачна, што спрацаваныя. Такія рукі былі ў маёй мамы… Але жанчыны сабраліся ўсе як на свята — з фрэзурамі, нафарбаванымі вуснамі. Нават вышыванкі апранулі. А як падпявалі нам! Я зразумеў, наколькі гэта сур'ёзна для людзей. Несур'ёзна ставіцца да гэтага нельга. Але такую працу трэба рабіць сумесна: патрэбны добры паказ па тэлебачанні, эфіры на радыё.

**— Дзеля таго, каб быў працяг, каб моладзь спявала свае песні, у рамках**



**фестывалю ў Маладзечне ладзіцца конкурс маладых выканаўцаў. Ці будуць сёлета адкрыцці імёнаў?**

— Другі год запар нам удалося знайсці маладых выканаўцаў, якія прыехалі на фестываль паказаць сябе. Яны не ўсе роўныя па ўзроўні, але імкнуцца спяваць толькі беларускі рэпертуар. Узнікла праблема з-за абмежавання выконваць пэўныя песні. Хоць мне падаецца, што ў нашых умовах трэба ганарыцца, што людзі па ўсёй Беларусі ведаюць і гатовыя спяваць песні. Але некаторым творам мы знайшлі замену. Конкурсны канцэрт атрымліваецца, і гэта сур'ёзная частка фестывалю. Таму што больш нацыянальных конкурсаў маладых выканаўцаў у нас няма. Асаблівую адказнасць яны адчуваюць менавіта таму, што выступаюць на сцэне нацыянальнага фестывалю ра-зам з нацыянальным аркестрам. І разважаюць над тым, што спяваюць.

Вось у такія моманты я адчуваю, што ўсе гэтыя гады працаваў нездарма. Калі мы толькі пачыналі прасоўваць беларускую песню, ніхто не верыў, што ў гэтым кірунку ёсць перспектыва, бо ўсё ж мы былі вельмі залежныя ад расійскага і рускамоўнага песеннага фону. Цяпер гэта не выклікае ўсмешкі. Доўгае жыццё гэтага фестывалю — таму пацверджанне. Сёлета даволі разнастайная праграма: паэтычная частка, тэатральная, папулярная песня, адзін з канцэртаў рыхтуе ансамбль «Сябры».

**— Вы робіце асобныя праграмы, прысвечаныя не толькі паэтам, але і беларускім кампазітарам, злучаеце іх творчасць са слухачамі. Ці ёсць плён, бо музыка ўсё ж сур'ёзная, акадэмічная?..**

— Я б хацеў адзначыць, што такі канцэрт будзе і ў рамках фестывалю ў Маладзечне, які больш скіраваны на папулярную музыку. Канцэрт беларускай акадэмічнай музыкі ладзіцца ў будынку музычнай школы. Мы падрыхтавалі музыку розных кампазітараў: у Беларусі вельмі цікавая кампазітарская школа, пра што мала хто ведае. За апошнія гады мне ўдалося паглыбіцца ў гэтую музыку. У Маладзечне гучаць творы Мікалая Аладава, Льва Абеліёвіча, Генрыха Вагнера ды інш... Гэта вельмі сур'ёзная і высокага ўзроўню музыка, якую смела можна выконваць у любой кропцы свету. Нядаўна сыгралі канцэрт Галіны Гарэлавай, магутнага сучаснага кампазітара. Чаму яе творы не гучаць там, дзе павінны гучаць? А яна ж піша для нашых сучаснікаў, пра наша адчуванне свету. Значыць, гэта музыка для ўсіх. Таму яшчэ адзін канцэрт у рамках фестывалю арганізаваны ў пасёлку Чысць для сельскага гледача.

Безумоўна, ёсць праграмы кампазітараў іншых краін, на якія ёсць попыт. Напрыклад, цяпер да «Славянскага базару» рыхтуем канцэрт на музыку Аляксандра Зацэпіна. Так, гэта пазнавальная, папулярная песня. Але з сур'ёзнымі праграмамі нас таксама выдатна прымаюць. Таму не спыняемся працаваць у гэтым кірунку.

Напрыклад, сёлета адначаецца 125-годдзе з дня нараджэння Мікалая Аладава. Яму прысвяцім аўтарскі вечар. Выхаванец ленінградскай школы, быў вельмі адораным чалавекам. Якая інтанацыя... Уласцівая таму часу. Леў Абеліёвіч, прадстаўнік еўрапейскай кампазітарскай школы, скончыў кансерваторыю ў Варшаве. Па ўзроўні — гэта наш Шастаковіч. Толькі імя Шастаковіча на слыху, пра яго цікава распавядаюць, а пра Абеліёвіча гавораць сціпла. У нашай культуры столькі багацця: не толькі Уладзімір Мулявін, праграму якому мы прысвяцілі летась. Колькі цудоўных канцэртаў магло б атрымацца, каб гэтым больш актыўна займаліся нашы тэатральна-канцэртныя арганізацыі. Лічу, што беларусам трэба рабіць свята, нават калі яны і не здагадваюцца, якое адкрыццё чакае.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

**ДАТАпіс: Рым**

***У Італіі ўрачыстасці распачаліся напрыканцы мінулага года на базе Цэнтральнай нацыянальнай бібліятэкі Рыма і Ватыканскай апостальскай бібліятэкі. А на радзіме беларускія музыканты, натхнёныя вандроўкамі па скарынаўскіх мясцінах у Італіі (наведаўшы Венецыю і Падую), ужо сёлета распачалі культуралагічны праект «Напачатку было слова…».***

# Віктарына «Мая Скарыніяна»

Ці шмат мы ведаем пра нашага першадрукара? Каб праверыць гэта, запрашаем стаць удзельнікам віктарыны «Мая Скарыніяна», якую Выдавецкі дом «Звязда» ладзіць сумесна з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі. Віктарына будзе праходзіць у тры туры, па дзесяць пытанняў у кожным.

Не ўсе пытанні простыя, як здаецца на першы погляд. Але ж і чытачы нашы дапытлівыя і дасведчаныя, таму мы ўпэўнены, што вы з пастаўленай задачай справіцеся.

Вынікі будуць падводзіцца пасля кожнага тура, тады ж будуць друкавацца і правільныя адказы на пытанні. Вашы адказы прымаюцца на працягу месяца пасля апублікавання заданняў тура.

Пераможцаў віктарыны чакае выдатны прыз — бясплатная экскурсія па Нацыянальнай бібліятэцы акурат у дні, калі краіна будзе святкаваць 500-годдзе беларускага кнігадрукавання.

Адказы на пытанні можна дасылаць на паштовы адрас рэдакцыі: вул. Б. Хмяльніцкага, 10А, 220013, Мінск (з пазнакай «Скарыніяна») або на e-mail: *skaryna@zviazda.by*.

### ПЫТАННІ ПЕРШАГА ТУРА ВІКТАРЫНЫ «МАЯ СКАРЫНІЯНА»

**1.** *Кім па родзе заняткаў быў бацька Францыска Скарыны Лука?*

- разьбяром;
- святаром;
- купцом;
- кавалём.

**2.** *У Полацку нядаўна археолагі знайшлі рэшткі будынка, які, мяркуецца, звязаны з імем Скарыны (цяпер ён знаходзіцца на тэрыторыі прысядзібнага ўчастка аднаго з палачан). Што, як лічаць гісторыкі, там месцілася ў часы Скарыны?*

- адзін з дамоў купецкага пасада, дзе мог нарадзіцца будучы першадрукар;
- храм, у якім хрысцілі Францыска;
- бернардзінскі кляштар, у якім Скарына мог атрымаць першапачатковую адукацыю;
- брацкая школа, дзе выкладаў славуты Сімяон Полацкі.

**3.** *Абярыце найбольш рэальны маршрут перамяшчэння Францыска Скарыны па гарадах Еўропы ў храналагічным парадку:*

- Полацк — Кракаў — Падуя — Прага — Вільня — Масква;
- Полацк — Вільня — Масква — Кракаў — Прага — Падуя;
- Полацк — Масква — Кракаў — Вільня — Падуя — Прага;
- Полацк — Прага — Кракаў — Падуя — Масква — Вільня.

**4.** *Як называлася першая кніга Скарыны, якая пабачыла свет у 1517 годзе?*

- «Псалтыр»;
- «Апостал»;
- «Малая падарожная кніжка»;
- «Кніга Царстваў».

**5.** *Устаўце прапушчанае біблейскае імя ў славутай скарынаўскай прадмове: «Таму і ??? , любячы край, дзе калісьці на свет нарадзілася, не шкадавала самое сябе, каб адвесці ад краю айчыннага небяспеку...»*

- Ева;
- Юдзіф;
- Руф;
- Царыца Саўская.

**6.** *Хто з беларусаў упершыню згадаў імя Скарыны ў газеце «Наша ніва» ў пачатку ХХ стагоддзя?*

- Янка Купала;
- Сяргей Палуян;
- Максім Багдановіч;
- Вацлаў Ластоўскі.

**7.** *Як было прозвішча прыватнага ленінградскага калекцыянера, у якога ў 1925 годзе былі набытыя першыя асобнікі Скарынавых кніг для Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі?*

- Мысліцкі;
- Бранявіцкі;
- Камарніцкі;
- Ляшчынскі;

**8.** *Як у Мінску называецца вуліца, якая з 1967 па 1989 год насіла імя Францыска Скарыны?*

- Алешава;
- Праспект Незалежнасці;
- Кальварыйская;
- Акадэмічная.

**9.** *Калі сёлета дакладная дата 500-годдзя беларускага кнігадрукавання?*

- 6 жніўня;
- 9 жніўня;
- 6 верасня;
- 19 верасня.

**10.** *Пытанне ад Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.*

Як звалі жонку Францыска Скарыны?



*Удзельнікі майстар-класа «Францыск Скарына вачыма дзяцей» малююць першадрукара.*

# НЕДЗІЦЯЧЫЯ З(Д)АГАДКІ,

## альбо Ці меў Скарына вусы?

Клуб кніжных прафесараў у Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі перыядычна ладзіць заняткі і майстар-класы, дзе распавядаюць пра знакамітых асоб, якія адыгралі значную ролю ў развіцці нацыянальнай літаратуры. Імя Францыска Скарыны на такіх занятках гучыць даволі часта. Апошні майстар-клас для маленькіх удзельнікаўназвалі «Францыск Скарына вачыма дзяцей».

Дзеці паразважалі над тэмай, як Біблія першадрукара паўплывала на развіццё кнігавыдання. Чаму Біблію называюць цэлай бібліятэкай? На якіх мовах былі напісаны Стары і Новы Запавет? На якіх нацыянальных мовах былі надрукаваныя Бібліі ў другой палове XV — XVI стагоддзях? Таксама паразважалі, чаму Францыск Скарына не выдаў Біблію адным фаліянтам, а друкаваў асобнымі кніжкамі невялікага фармату і навошта ў кожным выпуску ён размяшчаў прадмовы. Пасля азнаямленчага курса ўважліва разглядалі партрэт першадрукара, які ён размясціў у сваіх выданнях, і выказвалі гіпотэзы, ці меў Францыск Скарына вусы і што азначаюць шматлікія прадметы на яго партрэце.

Такая пабудова заняткаў дапамагае дзецям з цікавасцю і захапленнем успрымаць інфармацыю. Прадстаўнікі Клуба кніжных прафесараў змаглі адштурхнуцца ад ідэі і ўцягнуць малых у інтэлектуальны працэс.

Асноўным заданнем быў малюнак: пасля атрыманых ведаў дзеткі павінны былі самі ўвасобіць Скарыну так, як адчулі. І, што цікава, творчае заданне дало плён: творы юных «прафесараў» абсалютна розныя і арыгінальныя. Дзесьці першадрукар сур'ёзны і задуменны, а дзесьці — усмешлівы і пазітыўны. Дзеці раскрылі сябе не толькі як мастакі, але і як філосафы. На кожным малюнку ёсць аўтарскі сімвал, які юныя мастакі прапануюць гледачу расшыфраваць. Навучыліся ў Скарыны?

**Вікторыя АСКЕРА**



*Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.*

## Культурны ракурс

Дакладную копію друкарскага станка, за якім працаваў першадрукар Францыск Скарына, прадставіў беларускі гісторык і калекцыянер Уладзімір Ліхадзедаў. Зрабіў, здаецца, неверагоднае: аднавіў варштат паводле старых чарцяжоў і гравюр XVI стагоддзя! Ідэя стварэння падобнай канструкцыі не пакідала даследчыка гадоў пяць. За гэты час ён аб'ездзіў усю Еўропу ў пошуках старадаўніх гравюр і здымкаў. Вывучыўшы тонкасці друкарскай справы, здолеў рэалізаваць мару. Дарэчы, у свеце падобных канструкцый — адзінкі.

Таксама з дапамогай тэхналогій XVI стагоддзя беларускі гісторык аднавіў Біблію Францыска Скарыны. Уладзімір Ліхадзедаў прадставіў унікальную кнігу, надрукаваную на самаробнай ільняной паперы, выробленай па старадаўняй тэхналогіі вычэрпвання. Кніга амаль не адрознівалася ад арыгінала. Хаця пры сённяшнім развіцці аргтэхнікі зрабіць факсімільнае або рэпрынтнае выданне нескладана, аднойленая кніга — рэдкасць. На сваім варштаце гісторык марыць узнавіць першыя кнігі, якія выдаваліся ў друкарнях Беларусі ў XVI — XVII стагоддзях.

У хуткім часе гэты варштат ды іншыя станкі Уладзіміра Ліхадзедава займеюць сталае месца — іх можна будзе ўбачыць у музеі друкарскай справы, які гісторык плануе адкрыць. Спачатку хацелі размясціць новую ўстанову ў старажытным Полацку, на радзіме нашага першадрукара. У гэтым слаўным горадзе нарадзіўся і сам Ліхадзедаў. Але з-за розных абставін музей з'явіцца ў Вілейцы: ёсць гіпотэза, што адтуль мог паходзіць рускі першадрукар Іван Фёдараў. Такім чынам, выбар месца невыпадковы. Даследчык, дарэчы, плануе стварыць музей з дзеяннем. Падобныя ўстановы ёсць у Еўропе, праўда, іх не так ужо і шмат. Але такога, каб чалавек зайшоў і ўбачыў усё ў комплексе, няма. Да таго ж Уладзімір Ліхадзедаў хоча паказаць друкарскую справу ад XVI да XX стагоддзя.

**Аляксандр САВІЦКІ**

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
01.06.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1624.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2150

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686